АД ВЫДАЎЦОЎ



# МІЛЫ БРАЦЕ!

Можа, калі ўзьнікала ў цябе пытаньне: хто ж мы такія, беларусы? Якое нашае мейсца ў сусьветнай гісторыі ды культуры? Ці маем мы дастаткова ўнутранае моцы й веры, каб вярнуць сабе сваю мову, каб адчуць сваю душу, сваю існасьць спрадвечную, каб і „людзьмі звацца", і людзьмі быць? Ўсё было на нашым шляху: веліч і ганьба, слава і забыцьцё. Але ж мы ёсьць, мы ня ўмерлі, мы засталіся сабой. Значыцца, жыве Беларусь, і жыве яна незалежна ад чужое волі ды розных гістарычных варункаў. Моцная й чыстая душа Краю нашага, і жывая душа ў нашага народу. Не загаснуць зоркі ў небе, покі Неба будзе...

Людзі глядзяць у неба і прамаўляюць да Бога. Людзі спасьцігаюць Бога ў сабе і сябе ў Ім. Кожны чалавек і кожны народ мусіць шукаць свайго шляху да Бога, мусіць спасьцігаць самастойна.

Вялікае значэньне для кожнага народа сьвету мае ягоная вера, якая ёсьць сутнасьцю нацыянальнае сьветабудовы. А якая вера ў нас, беларусаў? Многія беларусы-праваслаўныя называюць сябе рускімі, беларусы-каталікі – палякамі. Дык няўжо ня было ў нас свае веры? Была. І ёсьць зараз, толькі ня ўсе знаюць яе, бо паўтары стагодзьдзі ўжо мінула пасьля яе зьнішчэньня расейскімі царамі.

Называецца вера нашая Грэка-Каталіцкая, або Уніяцкая. А зьнішчылі яе за тое, што ёю трымалася і жыла так нялюбая Маскве беларускасьць.

Мы паспрабуем расказаць у гэтым выданьні, што самі ведаем пра нашую Унію. На пачатку нумара мы зьмясцілі беларускі шасьціканцовы крыж – крыж сьвятой Ефрасіньні Полацкай, нябёснай апякункі Беларусі. А вакол яго – уніяцкі Сымбаль веры. І кожны наступны нумар будзем пачынаць з малітвы. Бо малітва – гэта яднаньне з Богам, яна ачышчае й узвышае.

І калі ты, браце, запомніш гэтыя малітвы, калі цябе зацікавяць нашыя матэрыялы, і табе захочацца спасьцігнуць старадаўную веру беларусаў, – мы будзем шчасьлівыя.

Дапамагай табе Бог!




# ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ УНІЯЦКАЕ МОЛАДЗІ

## СЫМБАЛЬ ВЕРЫ



Веру ў Бога Айца Усёдзяржыцеля, Стварыцеля неба і зямлі і ўсяго бачанага і нябачанага. І ў адзінага Госпада Ісуса Хрыста, Сына Божага, адзінароднага, ад Айца народжанага перад усімі вякамі: Сьвятло ад Сьвятла, Бога праўдзівага ад Бога праўдзівага, народжанага нястворанага, адзінасутнага з Айцом, праз якога ўсё сталася. Дзеля нас людзей, дзеля нашага збаўленьня зыйшоўшага з неба і ўцелаўлёнага праз Духа Сьвятога з Дзевы Марыі і ўчалавечанага. Укрыжаванага за нас пры Понцкім Пілаце, і цярпеўшага і пахаванага. І ўваскросшага на трэці дзень водля пісанага. І ўнебаўшэдшага і сядзячага праваруч Айца. І зноў маючага прыйсці ў славе судзіць жывых і памёршых, і Валадарству Яго ня будзе канца. І ў Духа Сьвятога, Госпада, жыватворца ад Айца (і Сына) паходзячага, з Айцом і Сынам спакланяльнага і супахвальнага, гаварыўшага праз прарокаў. І ў адзіную, сьвятую, паўсюдную і апостальскую Царкву. Вызнаю адзіны хрост. Спадзяюся ўваскрасеньня памёршых, і жыцьця вечнага. Амін.



## Уладзімер ЖЫЛКА

Падарожным, Божанька,
Ды ня лёгка йсьці.
Не відаць дарожанька –
Цяжка ў беспуцьці.

З тропу, сьцежкі роўнае
Зьбіліся дзяды,
І гады нягодныя
Замялі сьляды.

А душа мужычая
І да гэтых пор
Па старому звычаю
Моліцца да зор.

Нашы сёстры, мацеркі
Сэрцам у жальбе,
Пацеры у пацеркі
Ніжуць да Цябе.

Над мінучай славаю,
Гучнаю, як звон,
Над вялікай справаю,
Кінутай ў палон.

1924

Казімер СВАЯК

**МЫСЬЛІ НА ВАЖНЕЙШЫЯ СЬВЯТЫ ГОДУ**

# НАРАДЗІНЫ СЬВ. ЯНА ХРЫСЬЦІЦЕЛЯ

/24 чэрвеня. Даўней Купальле/

1. Сьвяты Ян Хрысьціцель даў узор пакутніка, хоць сам нягрэшны. Быў ён Езуса равесьнікам, але йшчэ малым аддаліўся на пустыню, дзе жыў у суровым посьце. Зь яго жыцьця вучыся, што на'т справядліваму пакута патрэбна, калі не за сябе, то за другіх. Жыцьцё сьвятога Яна не аднаго ляніўца можна застыдзіць і да паправы пабудзіць.

2. Суровы спосаб жыцьця ўтрымаў сьвяты Ян аж да сьмерці. Сам пануючы над целам, меў права і другіх напраўляці. За адвагу сваю, што напомніў распусьніка Герода, жыцьцём заплаціў. Ня дайся і ты нічым адстрашыць ад сваіх добрых дзел. Будзь верным навуцы Хрыстуса, хоць-бы затое трэба было-б цярпець прасьлед ад бязьверцаў.

3. Але пакута нямнога варта без пакоры. Сьвяты Ян з гэтае пакоры ня прыняў назову прарока. "Я голас на пустыні", казаў ён пытаючым, кім ёсьць. Паміж намі стаў Той, каго вы ня знаеце -- вучыў ён аб Езусе -- катораму я нягодны разьвязаць рамушка ў ног Яго". Калі-ж раз з вучнямі сваімі ўбачыў Хрыстуса, паказаў ім, кажучы: "Во Баранец Божы, во-хто гладзіць грахі сьвету". І цешыўся, што часьць яго вучняў адлучылася, каб пайсьці за Езусам. "Яму пара расьці, а мне ўмяньшаціся" -- так ім паясьняў пакорна. На Ярдане-ж упіраўся хрысьціць Езуса, аж калі Хрыстус напомніў яму лагодна словам "так трэба" , паддаўся і аглядаў хвалу сьвятой Тройцы.

З малітаўніка "Голас душы"
/Вільня, 1926г./



МІХАЛІНА



# Жыцьцярыс сьвятое пакутніцы Уніі

**Сьвяты Божа, сьвяты моцны, сьвяты несьмяротны, Стваральніку і Абаронца, Найпершы і Найапошні, адзіны праўдзівы Судзьдзя наш! Ты бачыш цяжкія ўчынкі нашыя, змрочныя думкі нашыя, Ты ведаеш, як заблыталіся мы ў неправотах нашых і як множым штодня грахі нашыя. Даруй нам у безьмежнай дабрыні Тваёй, не адвярні вачэй Тваіх ад пакутаў нашых, бо ведаеш Ты, які цяжкі шлях наш да сьвятла і праўды Тваё, як доўга блукаці ў цямрычных лябірынтах мусілі, пакуль сьветач Твой ня ўбачылі ды насустрач яму ня рушылі, зьбіваючыся яшчэ штокроку і да варожага сыканьня прыслухоўваючы. Бо згубілі мы веру сваю сьвятую – у цяжкіх пакутах шукаці мусім. Бо забыліся мы на Царкву нашую Уніяцкую, Табой нам дадзеную, – успамінаці мусім. Бо зглумілі мову нашую беларускую, зь якой да Цябе калісь прамаўлялі ў шчырасці сваёй, – ратаваці мусім. Бо Унію нашую Сьвятую ворагам зьнішчыць дазволілі – адраджаці мусім. Умацуй дух наш і дай нам сілы ў гарачым памкненьні нашым. У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін.**

## 1. ЗЬВЕСТАВАНЬНЕ

Унія – зьяднаньне. Унія – супольнасьць. Унія – мір, цярпімасьць і дабрыня. Ты, праваслаўны, і ты, каталік, згадайце былую лучнасьць вашую, працягніце адно аднаму сагрэтыя спагадаю далоні – моцны сяброўскі поціск рук вашых і будзе Унія. У праваслаўнага – нязьменнасьць, засяроджаная нярухомасьць, скіраванасьць углыб, на сваю раскрытую да Бога і поўную Богам душу, у яго – зразумелая мова і прыўкрасная раскоша набажэнстваў ды зьвераная з народнымі традыцыямі абрадавасьць. У каталіка – стромкасьць, вертыкальнасьць, готыка, накіраванасьць у Неба, у бязьмежны Сусьвет, дзе існуе беспачатны Бог, у яго – сьвяты Папа, адзіны намесьнік сьвятога Пятра, а праз яго і Хрыста, на зямлі, у яго – жывыя, трапяткія й палымяныя казаньні з амбону, што дапамагаюць знайсьці сябе і ў вечных пытанях чалавечага быцьця, і ў цяперашніх, хвалюючых падзеях, зьявах, ідэях.

Дык навошта ж спрэчкі й узаемныя непаразуменьні? Ці ня лепей сумовіцца, паяднацца ў адзінай любові да адзінага Бога, сысьціся на супольную ачышчальную малітву? То хай у людзей некаталіцкае веры захаваюцца іхныя абрады й мова літаніяў, а Папа Рымскі асьвяціць іх сваёй апекаю і будзе маліць сьвятога Пятра за іхныя душы.

Гэтак і нарадзілася ідэя Уніі – зьяднаньня цэркваў.

Нават не зьяднаньня, а ўзьяднаньня, бо першапачаткова Хрысьціянская царква была адзіная, як было адзіным Хрысьціянства, як навекі адзіны Хрыстос. Да падзелу цэркваў Хрысьціянства мела дзьве плыні – заходнюю (рымскую) і ўсходнюю (візантыйскую) – пры агульным падпарадкаваньні папу Рымскаму. Кіеўская Русь, а значыцца і нашыя землі, прыняла ў 988 годзе Хрысьціянства ўсходняга абраду – але пры несумненнай еднасьці з усёй Хрысьціянскай царквой. Канчатковы падзел цэркваў на каталіцкую і праваслаўную адбыўся ў 1054 годзе і суправаджаўся ўзаемнымі праклёнамі, якія кожную царкву да сваёй ісьціны не наблізілі, а ад чысьціні веры ў Слова Боскае, ад сьвятасьці аддалілі. Падзел стаў аналізам веры, і для вяртаньня ёй ранейшае паўнаты быў неабходны сынтэз – цэльнасьць на новым узроўні, цэльнасьць пры веданьні сваіх першаэлементаў. Менавіта сынтэзам, вяршынным узроўнем еднасьці – сьвядомай еднасьцю – і разумелася Унія.

Першыя спробы ажыцьцявіць Унію рабіліся ў XII стагодзьдзі. У сярэдзіне XV стагодзьдзя, калі Візантыя апынулася перад пагрозай заваяваньня туркамі, адзіна магчымым шляхам ратаваньня царквы ўсходнія патрыярхі ўбачылі саюз з Рымам, царкоўную Унію, якая і была падпісана на Флярэнцкім саборы 1439 году. Спраўдзіць гэтую Унію не ўдалося, у розных краінах па розных прычынах. Так, Руская Праваслаўная Царква, якая падпарадкавалася Канстанцінопальскаму патрыярху, прагнула самастойнасьці і выкарыстала паслабленьне Візантыі для аўтакефалізацыі. Гэты рух актыўна падтрымлівалі й падштурхоўвалі палітычныя ўлады Масквы. Маскоўскі мітрапаліт Ісідар, які ўрачыста падпісаў Флярэнцкую унію, быў заключаны ў манастыр маскоўскім князем Васілём II і нізложаны біскупскім саборам.

Найбольш удалыя ўмовы для яднаньня

## 2. НАРОДЗІНЫ

Духоўны сэнс Уніі, ейнае агульнахрысьціянскае значэньне і ейную палітычную неабходнасьць разумелі хрысьціянскія сьвятары розных веравызнаньняў і пераканаьняў. Самая атмасфэра Княства, здавалася, была насычана прадчуваньнем непазьбежнасьці і набліжэньня Уніі. Міратворчы й нацыянальна жыцьцядайны дух Уніі літаральна лунаў у паветры. Час прыйшоў. І нельга было затуліцца ад ягонага ўладарнага подыху. Ідэю Уніі прымалі альбо не прымалі, за яе змагаліся альбо ёй рашуча адмаўлялі ў праве на існаваньне – але адмахнуцца ад яе было ўжо немагчыма, яна зрабілася цэнтрам усяго рэлігійнага жыцьця дзяржавы.

Першай ластаўкай /з тых, што робяць вясну/ стаў твор езуіта Пятра Скаргі „Пра еднасьць божага касьцёлу пад адзіным пастырам", напісаны ў 1577 годзе, які нёс у сабе моцны зарад дзеля зьяднаньня цэркваў.

Пятра Скаргу /*1536 + 1612/ можна лічыць адным з айцоў Уніі. Гэта быў чалавек шырокае эўрапэйскае адукацыі і высокае агульнае культуры. У 1568 годзе ён стаў езуітам і з гэтага часу распачаў найактыўнейшую асьветніцкую дзейнасьць у Княстве. Ён стварыў шмат у якіх гарадох калегіі, напачатку сам выкладаў у іх, уводзіў іх у стабільны працоўны рытм і рушыў далей, у новыя гарады, да новае працы. Праз два гады пасьля выхаду ў сьвет кнігі „Пра еднасьць..." Скарга заснаваў Віленскую акадэмію і стаў яе першым рэктарам. Духоўная нястомнасьць і вялікая эрудыцыя Скаргі зьвярнулі на сябе ўвагу караля. І ў 1588 годзе ён стаўся прыдворным прапаведнікам Жыгімонта ІІІ Вазы ды пачаў рыхтаваць глебу ў каралеўскім асяродку для злучэньня цэркваў. Яму ўдалося схіліць Жыгімонта да падтрымкі як самой Уніі, так і сьвятароў, што за яе змагаліся.

Са свайго боку, праваслаўныя сьвятары рупліва рыхтавалі глебу ў царкоўным асяродку і рабілі ўсю непасрэдную падрыхтоўчую працу. Самым апантаным сярод іх, самым адданым і непахісным у сваёй веры ў сьвятасьць Уніі быў боганатхнёны Іпаці Пацей /*1541+1613/, біскуп Валадзімерскі і Берасьцейскі, а з 1599 году – уніяцкі мітрапаліт. Ён паходзіў з буйнога магнацкага роду, выхоўваўся пры дварох Мікалая Радзівіла Чорнага і Жыгімонта ІІ Аўгуста. Мог зрабіць бліскучую палітычную кар'еру /быў сэнатарам Рэчы Паспалітай/, але паслухаў голасу душы свае, паверыў у наканаваньне сваё і стаў манахам, каб увесь агонь сэрца свайго й розуму свайго, усе сілы й веды свае аддаць Боскай справе Уніі – найярчэйшаму сьветачу ягонага жыцьця. Амаль усё, што рабілася ці адбывалася на карысьць заключэньня Уніі, рабілася ці адбывалася дзякуючы ягоным намаганьням, зь ягоным удзелам або пад ягоным уплывам.

Стаўшы ў 1590 годзе біскупам Валадзімірскім і Берасьцейскім, Іпаці Пацей уключыўся ў барацьбу за Унію і адразу стаў першай асобаю ў гэтай барацьбе - бясспрэчным лідэрам і самым самаахвярным працаўнікам. Ён нястомна шукаў прыхільнікаў, наладжваў кантакты з царкоўнымі іерархамі, са сьвятарамі, з уплывовымі сьвецкімі асобамі. І бясконца размаўляў, даводзіў, тлумачыў, угаворваў...

У ім канцэнтравалася велізарная духоўная энергія і дзіўнае ўнутранае сьвятло. Ён быў увесь нібы прамень, і людзі вакол яго ўмацоўваліся духам, і расла вера ў Боскую падтрымку.

У тым самым 1590 годзе са сваім адзінадумцам і паплечнікам Кірылам Тарлецкім – патрыяршым экзархам, біскупам Луцкім – Іпаці Пацей угаварыў Кіеўскага мітрапаліта Міхайла



Пётр Скарга

Рагозу склікаць у Берасьці сабор, дзе змог упершыню афіцыйна на такім высокім узроўні выкласці ідэю Уніі. /Між іншым, уся самаадданая дзейнасьць Іпація Пацея на карысьць Уніі ў Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі зьмясьцілася ў вычарпальную фразу: „здрадзіў праваслаўю"/.

Асоба біскупа Іпація была настолькі яркая, высакародная й прыцягальная, слова ягонае – настолькі пераканаўчае, што ў хуткім часе шматлікія сьвятары – на чале з самім мітрапалітам Кіеўскім, Галіцкім і ўсея Русі – сталі прыхільнікамі заключэньня уніі цэркваў. Гэта дало магчымасьць за некалькі гадоў зрабіць велізарную працу: стварыць фактычна новую Царкву, пабудаваную на імкненьні даць мір і і шчасьце свайму народу. За гэтыя гады было праведзена некалькі падрыхтоўчых царкоўных сабораў, заключаны прыватныя і афіцыйныя дамоўленасьці аб злучэньні цэркваў з Папам Клімэнтам УІІІ, з каралём Жыгімонтам і каталіцкімі іерархамі, удакладнены і пераўдакладнены варункі прыняцьця Уніі /з захаваньнем адметнасьці Праваслаўнае царквы і са зраўнаньнем у правох уніяцкіх і каталіцкіх сьвятароў/, і, нарэшце, праведзены славуты Берасьцейскі сабор 1596 году ды падпісаная сама унія.

Патрыярх Канстанцінопальскі Іерамія бязьмежна абурыўся, калі даведаўся аб падзеях у Рэчы Паспалітай. Як, такая шматлікая паства выйдзе з улоньня Праваслаўнае царквы? Як, Праваслаўная царква страціць свой уплыў на гэтай прывабнай і даходнай чужой заходняй тэрыторыі? Як, узрасьце моц даўнага суперніка – папы Рымскага? Няможна! І патрыярх, ня ў змозе што-небудзь рэальна зьмяніць на карысьць Праваслаўнае царквы, пачаў запалохваць сьвятароў Княства. Першая спапяляльная маланка была кінута ў Рагозу ды іерархаў, схільных да Уніі: пагроза праклёну. Але іх абараніў кароль. Тады патрыярх распачаў „псыхалягічную атаку" на простых сьвятароў і вернікаў. З новым імпэтам пачалі пісацца й распаўсюджвацца творы антыкаталіцкага й антыуніяцкага

зьместу, дзе папа Рымскі абвяшчаўся антыхрыстам, д'яблавым прыйсьцем на зямлю і г. д. Актыўна прапаведвалі супраць Уніі праваслаўныя сьвятары, прысланыя Маскоўскім патрыярхам, якія ня ведалі мясцовых варункаў і не разумелі тутэйшых традыцыяў і патрэбаў. Зь ненароджанай яшчэ царквой вялася самая бязьлітасная вайна. Вайна стала яшчэ больш жорсткай – не на жыцьцё, а на сьмерць – пасьля таго, як Унія паўстала. Нянавісьць праваслаўных /якой так не хацела маладая царква, створаная дзеля міру/: праклёны, паклёпы, забойствы – далёка выходзіла за межы нашага цяперашняга разуменьня рэлігійнае адданасьці.

Але тады, у 1591 – 1596 гадох, апантаныя змагары за Унію і ўявіць не маглі цяжкага лёсу будучае Беларускае Царквы, а варожасьць патрыярха толькі падахвочвала іх да больш дзейсных ды актыўных закідаў.

Да 1594 году падрыхтоўчая праца фактычна завершылася: былі распрацаваныя ўсімі зацікаўленымі бакамі ўмовы падпісаньня уніі, атрымана згода папы Рымскага і караля Рэчы Паспалітай, падрыхтаваныя сьвятары. І вось, нарэшце, 2 сьнежня 1594 году /ст. ст./ на ўсеагульным саборы ў Берасьці мітрапаліт Кіеўскі Міхайла Рагоза ўрачыста абвясьціў заключэньне уніі паміж Праваслаўнай і Каталіцкай цэрквамі.

Па даручэньні Берасьцейскага сабору 24 верасьня 1595 году Іпаці Пацей і Кірыла Тарлецкі выправіліся ў Рым, да Папы Клімента УІІІ, дзеля афіцыйнага паведамленьня аб стварэньні грэка-каталіцкай уніяцкай царквы і прыняцьця прысягі на вернасьць. Усё іхнае падарожжа праходзіла ў сьвяточнай атмасфэры, пад знакам еднасьці і любові. Пасьля няспынных спрэчкаў на радзіме, пасьля пагрозаў ды праклёнаў, пасьля зьнясільваючае працы нашыя паслы – як з бясконцага тунэлю на дзённае сьвятло – апынуліся раптам ў цэнтры сяброўскае й дабразычлівае ўвагі, іх паўсюль сустракалі як самых высокіх гасьцей. Урачыстыя прыёмы былі наладжаны спярша папскім прадстаўніцтвам у Вене, а потым у блаславёнай Італіі – у Вэнэцыі, Флярэнцыі, Рыме. 21 студзеня 1596 году Клімент УІІІ у прысутнасьці ўсёй кардынальскаў калегіі адправіў імшу ў гонар гасьцей, Пацей і Тарлецкі вусна і пісьмова паведамілі аб злучэньні цэркваў, прачыталі Сымбаль Веры і прынесьлі прысягу на Біблії. На памяць пра гэтую незвычайную і слаўную падзею ў Ватыкане быў выпушчаны медаль. Папа зрабіў паслам багатыя падарункі, а Іпацію Пацею надаў годнасьць свайго дамовага прэлата і асыстэнта. Каралю Жыгімонту быў адасланы ліст з просьбай спрыяць усяляк Уніяцкай царкве й сьвятарам.

Адгукнуўшыся на гэты ліст, Жыгімонт ІІІ 30 ліпеня 1595 году выдаў прывілей аб зраўнаньні ў правах грэка-каталіцкага духавенства з рымска-каталіцкім і аб вечнай падтрымцы каралеўскай уладаю Уніяцкай царквы:

> ... тымъ теперешнимъ листомъ привилѣемъ нашимъ имъ самымъ всимъ, велебнымъ архіепископу и епископомъ (...) и всему духовенству церкви Восходнее Греческоѣ и Рускоѣ во всихъ панствахъ нашихъ, варуемъ, упевняемъ и словомъ нашимъ господарскимъ святобливе прирекаемъ и обѣцуемъ, сами за себе и наяснѣйшихъ потомковъ нашихъ, ихъ милость королей Польскихъ и великихъ князей Литовскихъ, (...) ижъ то имъ самымъ (...) намнѣй, никгды, ни въ чомъ шкодити не маетъ (...). И абы, напротивъ, станомъ ихъ водлугъ правъ духовных и свѣцкихъ добрѣ было (...). И во всякихъ свободахъ и вольностяхъ, зацности, учтивости и прерогативахъ (...) и оныхъ всихъ заховати маемъ и словомъ нашимъ королевскимъ то обѣцуем...

Цяпер, пасьля атрыманьня афіцыйных дакумэнтаў ад Папы Клімента УІІІ і ад караля Жыгімонта ІІІ, уніяцкім сьвятарам засталося толькі падпісаць самую унію і гэтым пакласьці пачатак існаваньню новае царквы – Грэка-Каталіцкае, Уніяцкае.

На пачатку кастрычніка 1596 году Берасьць нагадваў сталіцу пад час вялікага сьвята – горад быў чысьцютка вымыты й урачыста ўпрыгожаны, на бурлівых шматлюдных вуліцах можна было, калі пашчасьціць, убачыць самых высокіх царкоўных іерархаў розных канфэсcыяў Рэчы Паспалітай, вялікіх дзяржаўных дзеячаў Княства /прыехаў сам канцлер – славуты Леў Сапега!/, і ўжо колькі хочаш можна былоназіраць мноства духоўнікаў і шляхцюкоў у сьвяточных строях. І вядома, безьліч простага люду, мяшчанаў ды сялянаў з усяго наваколься, гандляроў ды махляроў усіх гатункаў. Проста на плошчах адзін за адным разгараліся „багаслоўскія дыспуты", у якіх не апошнім аргумэнтам быў кулак. Горад віраваў на працягу тыдня і болей.

Зьязджаліся ў горад і ярыя працуннікі Уніі, сьвятары і шляхта з усяго Княства, многія – з узброенымі да зубоў (у абозах раз-пораз blішчэлі цьмяна ствалы гарматаў) атрадамі гайдукоў і казакаў. У пратэстанцкай бажніцы ў прыватнай сядзібе яны адкрылі свой сабор. Сярод іх былі і тыя, хто раней заяўляў каралю аб сваім жаданьні прыняць Унію, і нават біскуп Львоўскі Гедэон Балабан і біскуп Перамышальскі Аляксандр Палубенскі, якія падпісалі злучэньне з Рымам на саборы 1594 году. Гэты іхні сабор праклаў Унію „на векі вечныя". Пётр Скарга, Крыштаф Радзівіл, Леў Сапега і іншыя запрашалі іх на перамовы, заклікалі да зьяднаньня – ды марна.

Але асноўная дзея адбывалася ў галоўным храме біскупа Валадзімірскага і Берасьцейскага Іпація Пацея – у саборы сьвятога Міколы. Сюды, на царкоўны сынод, дзеля гэтае вялікае падзеі – злучэньня Праваслаўнае і Каталіцкае цэркваў ды ўтварэньня Апостальскае Уніяцкае


Іпаці Пацей

Царквы – зьехаліся: мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсея Русі Міхайла Рагоза, архібіскуп Полацкі, Вітабскі і Мсьціслаўскі Рыгор Герман, біскуп Луцкі і Астрожскі Кірыла Тарлецкі, біскуп Холмскі і Бельскі Дзяніс Збіруйскі, біскуп Пінскі і Тураўскі Іона Гогаль, архімандрыты Браслаўскі Багдан Гадкінскі-Клімонт, Лаўрашоўскі Гедэон Бралніцкі, Менскі Паісей ды шмат іншых праваслаўных сьвятароў. З каталіцкага боку – паслы Папы Клімента архібіскуп Львоўскі Ян Дзьмітры Салікоўскі, біскупы Луцкі Бернард Мацяеўскі і Холмскі Станіслаў Гамаліцкі, а таксама чатыры езуіты – прадстаўнікі караля Жыгімонта, сярод якіх быў Пётр Скарга. Акрамя таго, прыехалі канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, Гэтман Вялікага княства Літоўскага князь Нясьвіскі, ваявода Троцкі Мікалай Крыштаф Радзівіл, падскарбі Вялікага княства Літоўскага староста Берасьцейскі Дзьмітры Галіцкі і іншыя сьвецкія і духоўныя асобы.

8 кастрычніка Сынодам была прынятая Саборная грамата аб уступленьні праваслаўных іерархаў у Унію, зь якой і бярэ пачатак Уніяцкая Царква ў Рэчы Паспалітай. Мітрапаліт Рагоза ўрачыста абвясьціў:

> **Во имя Бога во Тройцы единаго, на честь и святую хвалу его, и людского ради спасенія, а вѣры святой хресьтіаньской кафолической на утвержденье и подвышенье, всѣмъ, которымъ тое вѣдати будетъ належало. Мы о Бозѣ на собор парадномъ, въ Берестью, року Божія тысяча пятьсотъ девятдесятъ шостого, мѣсяца Октобрія осмого дня, водлугъ старого календара, въ церквѣ соборной святого Николы собранные, митрополитъ и епископове обряду Греческаго нижей подписаные, ознаймуем на вѣчную память, ижъ мы бачучи, яко единовладность церкви Божой во Евангеліи усты Господа Бога нашого Іисуса Христа основанна и утвержденна есть, абъ на единомъ Петрѣ, яко на камени церковъ Христова моцнѣ стоячи, отъ него одного ряжена и справована была, абы у единаго тѣла едина глава и въ единомъ дому единъ господарь и шафаръ оброковъ Божіихъ надъ челядію поставленый о порядку и о всемъ добромъ всѣхъ обмышлялъ. Который то порядокъ церкви Божой отъ часовъ апостольскихъ зачатый тривалъ по вси вѣки, а тако, ижъ вси патріархі до единого потомка Петра святого, папы Рымского, завжды въ судахъ епископскихъ и въ апеляцыяхъ утекалися, яко се то зъ Соборовъ и правилъ святыхъ Отецъ показуетъ, и наши Словенскіе писма зъ Греческихъ зъ стародавна преложоные достаточнѣ то показуютъ, и старые святые Отцы церкви Восточной то свѣтчать, которые-то и Петра святого престолъ и старѣйшенство и власть его надъ епископы всего свѣта знаютъ.**

Далей у Грамаце нагадвалася пра унію, падпісаную ў Флярэнцыі ў 1438 годзе, і за адступніцтва ад якой Візантыйскія патрыярхі **„въ моцъ поганьскую Турецкую впали"**, а на ўсіх праваслаўных землях **„много блудовъ и злыхъ поступковъ", „и много брыдкого святокупства наступило"**. І таму, **„не хотечи быти участниками греху такъ великого и неволи поганьской, которая за тымъ прійшла на Царигородскихъ патріарховъ, и не хотечи имъ росколу и разорванія въ церкви святое единости помогати, и забегаючи спустошенію церквей"** ды дбаючы аб выратаваньні сваім і паставы сваёй, сьвятары выправілі паслоў у васобе Іпація Пацея і Кірылы Тарлецкага зь ведама й дазволу караля да Папы **„Климентія осмого", „просячи абы насъ до своего послушенства, яко навышшій пастыръ церкви вселенской католической принялъ"**.

Пасьля падавалася інфармацыя пры гэты Берасьцейскі Сабор – сынод – зь пераликам папскіх і каралеўскіх паслоў і подпісамі саміх іерархаў, удзельнікаў Сабору:

> **Михаилъ Рагоза, волею Божою архіепіскопъ митрополитъ Кіевскій и Галича всея Руси, рукою власною",**
>
> **„Ипатей Потей, Божою милостью епископъ Володимерьскій и Берестейскій, рукою властною",**
>
> **„Кирилъ Терлецкій, Божью милостью ексарха, епископъ владыка Луцкій и Острожскій, властною рукою",**
>
> **„Григорей Германъ, милостью Божою архиепископъ Полоцкій, владыка Витебскій и Мстиславскій, рукою властною",**
>
> **„Деонисей Збируйскій, Божью милостью епископъ владыка Холмскій и Белзскій, рукою властною",**
>
> **„Іона Гоголь, Божою милостью епископъ Пиньскій и Туровскій, архимандритъ Кобринскій, властною рукою",**
>
> **„Богданъ Годкинскій-Климонтъ архимандрит Браславскій, властною рукою",**
>
> **„Гедеонъ Бролницкій, архімандритъ Лаврашовскій",**
>
> **„Паисей архимандритъ Менскій, рука властная".**

Пасьля падпісаньня гэтае Саборнае граматы была агалошана папская булла, і тады абняліся з радасьцю каталіцкія і праваслаўныя сьвятары. І адслужылі ўрачыста імшу ў Грэцкім абрадзе, і славілі Бога, і дзякавалі Яму, што паўстала воляю Ягонаю Царква апостальская сьвятая, падзелам ды сварам непадлеглая. І казаў Пётр Скарга казаньне Аб еднасьці. І верыў Іпаці Пацей, што скончыліся часы спрэчкаў бескарысных і зьніштажальных і што запануе нарэшце на ягонай любай Радзіме доўгачаканы блаславёны мір, і Слова Божае пачуе ўвесь ягоны вялікі народ...

І верыў Іпаці...



## 3. ЖЫЦЬЦЁ. ЦУДЫ.



Калі я гавару мовамі чалавечымі і анёльскімі, а любові ня маю, то я медзь зьвінячая ці кімвал гудзячы. Калі я маю прароцтва, і ведаю ўсе тайны і ўсякае веданьне, і калі маю ўсю веру, каб і горы перастаўляць, а ня маю любові, дык я нішто. І калі я раздам усю маемасьць маю і аддам цела маё на спаленьне, а любові ня маю, дык няма мне ніякае карысьці.

1 Кар. 13, 1 – 3.

Хто гаворыць (незнаёмаю) моваю, збудоўвае сябе; а хто прарочыць, царкву будуе.

Гэтак і вы, калі языком даецё незразумелыя словы, дык як пазнаюць, што вы гаворыце? Вы будзеце гаварыць на вецер. Колькі, прыкладам, розных слоў на сьвеце, і ні воднага зь іх няма без голасу; але, калі я не разумею значэньня голасу, дык буду чужаком таму, хто гаворыць, і для мяне чужак, хто гаворыць. Гэтак і вы, калі рупіцеся аб дары духоўныя, старайцеся збагацець імі дзеля збудаваньня царквы. А дзеля гэтага, хто гаворыць (незнаёмаю) моваю, няхай моліцца аб дар тлумачэньня.

1 Кар. 14, 4, 9 – 13.



Юнацтва, сталеньне даюцца чалавеку, каб ён, не абцяжараны яшчэ зямнымі справамі й зямнымі грахамі, мог вольна спасьцігаць сусьвет і сябе ў ім, углядаючыся пільна ў створанае Богам ды ўслухоўваючыся ў Слова Божае. Юнацтва належыць не людзтву, але Богу. Юнацтва прысьвечана Небу.

Гэтак і Царква: народжаная, яна найбліжэй да Бога, яна ўваходзіць адразу ў свой залаты век, шчасьлівы век – якія б цяжкасьці ні мусіла пераадольваць і якія б трагедыі ні перажывала, – бо непахісна вера, невынішчальны маладыя сілы, і наперадзе вечнасьць. Пасьля залаты век можа паўтарыцца. А можа і не . . .

Два з паловаю стагодзьдзі праіснавала Уніяцкая Царква на Беларусі. Два з паловаю стагодзьдзі ад ейнага нараджэньня да пакутніцкай сьмерці. І юнацтва ў яе было такое кароткае . . .

Лёс ня быў літасьцівым да Беларусі ў гэтыя два з паловаю стагодзьдзі. Страта дзяржаўнасьці, няўхільнае ўзмацненьне нацыянальнага ўціску – спачатку паланізацыя, пасьля русыфікацыя, выкіданьне беларускае мовы зь дзяржаўнага ўжытку, забарона беларускага слова ўвогуле, нечуваны духоўны гнёт – і ўсё гэта пасьля велічы і славы, пасьля ўзьлёту нацыянальнае культуры й навукі ў азораныя вышыні чалавечага духу.

І адзінае, чым трымалася ў тыя жахлівыя часы Беларушчына, – гэта нацыянальная Уніяцкая царква. Яна была дадзена Богам нашаму народу, каб выстаяў ён, не зламаўся пад варожымі бурамі, ня зьнік з твару зямлі, каб знайшоў ён, адкрыў і явіў сьвету сваю пакутніцкую, сваю сьвятую праўду. Усе два з паловаю стагодзьдзі была Уніяцкая царква разам з народам беларускім, цярпела разам зь ім усе нягоды, жыла й пакутавала разам зь ім, адлюстраваўшы ў сваім трагічным лёсе, як у кроплі вады, лёс бацькаўшчыны нашай. І яна, Уніяцкая царква, гэтая жывая душа Беларусі, давала народу веру ў сваю праўду, давала красу і моц беларускаму духу дзеля творчасьці і змаганьня. І магчыма дзякуючы толькі ёй, Уніяцкай царкве-пакутніцы, мы, беларусы, яшчэ ёсьць у сьвеце, і гучыць яшчэ калі-нікалі пад вечным Небам нашая дзівосная мова.

Шчасьлівым юнацтвам Уніі сталі часы мітрапаліта Іпація Пацея /1599–1613/, які быў абраны на гэты пасад пасьля сьмерці Міхайлы Рагозы. Сталеньне прыпала на часы мітрапаліта Язэпа Вэльяміна Руцкага /1613–1637/, які стварыў унутраную арганізацыю царквы. Трагічнай кульмінацыяй гэтага перыяду стала забойства Полацкага архібіскупа Іязафата Кунцэвіча /1623/. А ў хуткім часе пачаўся пякельны ўціск і, адпаведна, спад вонкавай актыўнасьці, калі ўвесь рух, ўсё разьвіцьцё мусілі засяроджвацца толькі на сваім унутраным жыцьці.

Ужо на самым пачатку XYII стагодзьдзя пачалося актыўнае фундаваньне уніяцкіх цэркваў і кляштараў /манастыроў/, гэтых асяродкаў чыстай духоўнасьці. Шмат пры якіх кляштарах ствараліся друкарні, школы, калегіі. Перад першым падзелам Рэчы Паспалітай /1772/ у краіне было каля 150 базыльлянскіх кляштараў, і амаль палова зь іх мелі пры сабе школу або друкарню /альбо і тое і тое/. Прычым нельга забывацца, што на гэты час эпоха роськвіту уніяцтва была ўжо ў мінулым, і шматлікія кляштары, а тым больш культурна-асьветніцкія цэнтры пры іх, прыйшлі ў заняпад і зьліквідаваліся.

Базыльляны – адзіны уніяцкі манаскі ордэн /поўная назва – Закон Сьвятога Базыля Вялікага/. Названы паводле імя славутага дзеяча раньняга Хрысьціянства Айца царквы сьвятога Базыля Вялікага – змагара за еднасьць Хрысьціянскае царквы, фундатара і апекуна кляштараў.

Навучаньне ў базыльлянскіх школах і калегіях вялося на народнай мове, нават у самыя неспрыяльныя для яе часы. У друкарнях базыльлянаў пабачыла сьвет шмат катэхізмаў, малітоўнікаў, службоўнікаў, пісаных па-беларуску, а таксама павучаньняў, казаньняў, палемічных твораў і іншай літаратуры – на чатырох мовах: беларускай, польскай, лаціне і царкоўна-славянскай.

Першым базыльлянскім цэнтрам стаў Сьвята-Троіцкі кляштар у Вільні, якім апекаваўся сам мітрапаліт. Тут была максімальная канцэнтрацыя духоўнай ды асьветніцкай дзейнасьці уніятаў. І менавіта тут скрыжаваліся шляхі трох найвыдатных царкоўных

дзеячаў Беларусі – такіх непадобных, з такімі рознымі лёсамі, але якіх вяла адзіная зорка – Іпацiя Пацея, Язэпа Вэльяміна Руцкага ды Іязафата Кунцэвіча.

Язэп Вэльямін Руцкі (*1573+1637) быў архімандрытам Сьвята-Троіцкага кляштару. У апошнія гады жыцьця Іпацiя Пацея ён быў памочнікам мітрапаліта, ягоным намесьнікам і самай вялікай ягонай надзеяй. Пасьля сьмерці Іпацiя /1613/ Руцкі стаў трэцім уніяцкім мітрапалітам. Ён фактычна і паклаў пачатак існаваньню менавіта беларускае царквы, царквы самабытнае, што не паўтарала ні візантыйскую, ні лацінскую. Руцкі быў яшчэ і выдатным пісьменьнікам-палемістам – слова ягонае нямала паспрыяла разьвіцьцю беларускае мастацкае думкі.

Але перадусім ён быў чалавекам незвычайным па сваіх духоўных якасьцях. Спакойны, нязьменна дабразычлівы, ён увесь нібыта сьвяціўся дабрынёй і спагадаю да кожнае жывое істоты на зямлі. Ягоная ўсёдаравальнасьць часта зьдзіўляла нават ворагаў. Але ён не хацеў аніякіх канфрантацыяў, бо ведаў: каб маладая царква сапраўды прынесла мір на ягонаю зямлю ды дапамагла ягонаму народу знайсьці свой шлях да Бога – яна павінна несьці ў сабе толькі любоў, толькі дабрыню й сьвятло. Ён хацеў, каб усе на Беларусі жылі ў згодзе, каб усё рэлігійнае шматгалосьсе спрыяла толькі стварэньню беларускае саборнасьці, нацыянальнае духоўнае еднасьці. І што ж зробіш, калі гэтага хацелі ня ўсе . . .

Руцкі марыў аб утварэньні ў Вялікім княстве Літоўскім патрыярхіі, каб царква ў ягонай краіне стала цалкам самастойнай, паўнацэннай, завершанай. Больш таго, ён хацеў, каб патрыярхія была агульная для уніятаў і праваслаўных, каб гэта была менавіта патрыярхія Княства і каб яна дапамагла кансалідаваць нацыянальныя сілы.

Дзеля гэтага 20 студзеня 1624 году на саборы уніяцкіх біскупаў у Навагрудку было вырашана адправіць у Кіеў да праваслаўнага духавенства паслоў дзеля перамоваў аб утварэньні патрыярхіі.

Пісьмовы наказ, які сабор выдаў паслам, быў наскрозь прасякнуты нечаканай для таго часу прагай міру, сардэчнасьцю і шчырасьцю. Паслам прапаноўвалася

Оповѣдати (...) имъ отъ насъ митрополиты Кіевского и всея Руси и отъ ихъ милости отцовъ пяти епископовъ (...) горячую милость прагненья покою зъ ними, яко зъ сынами и братею въ единомъ народѣ Россійскомъ рожоною (...)

А таксама

Пытати у нихъ, естли бы щырым сердцемъ, откинувши приваты свои на сторону, прагнули съ нами соедыненія (...)

Руцкі гатовы быў дзеля міру дараваць праваслаўным усё: і замах на Іпацiя Пацея ў Вільні, і замах на жыццё яго самаго, і нават забойства Іязафата Кунцэвіча ў Вітабску, якое адбылося год таму. Пачуцьцё помсты было яму невядомае. Адзінае, чаго ён хацеў ад праваслаўных духоўных,

только бы зъ ихъ стороны таяжъ щырость сердечная была.

На жаль, мара Руцкага аб утварэньні патрыярхіі так і засталася мараю.

Але вернемся ў Вільню, у час, калі да гэтых падзеяў было яшчэ далёка, калі быў яшчэ жывы мітрапаліт Іпацi Пацей, калі Язэп Вэльямін Руцкі быў архімандрытам Сьвята-Троіцкага віленскага кляштару, а Іязафат Кунцэвіч быў іераманахам у гэтым самым кляштары і памочнікам Руцкага.

Улетку 1608 году ў Вільні ўзьнік вялікі закалот паміж праваслаўнымі і уніятамі. Праваслаўныя спрабавалі выгнаць з гораду уніятаў, захапілі кафедральны сабор і некалькі

## Іязафат Кунцэвіч



іншых цэркваў. Руцкі хацеў неяк прыйсьці зь імі да згоды, і можа, справа б нейкім чынам і вырашылася, але нечакана віленскі мяшчанін Іван Тупека напаў на архімандрыта з мэтай забіць. Тады мусілі ўмяшацца найвышэйшыя ўлады. У Вільню прыехаў сам кароль Жыгімонт ІІІ Ваза. Мітрапаліт Іпацi паслаў сваіх людзей забраць кафедральны сабор і Пакроўскую царкву, згодна з каралеўскім загадам. Праваслаўныя мяшчаны, раззлаваныя на караля, мітрапаліта, архімандрыта і ўсіх уніятаў,намовілі таго ж Івана Тупеку забіць Іпацiя Пацея. Гэты фанатык проста ў цэнтры горада, каля рынку, сярод белага дня напаў на старога мітрапаліта, але забіць не патрапіў, толькі адсек яму на руцэ два пальцы. На шчасьце, побач апынуўся Іязафат Кунцэвіч, ён дапамог параненаму ўладыку дабрацца да кляштару, а адсечаныя пальцы пасьля паклаў у Сьвята-Троіцкай царкве і зрабіў надпіс з псальма: „Караючы караў мяне Госпад, але сьмерці мяне не аддаў”.

Цяпер варта запыніцца на асобе самога Іязафата Кунцэвіча /*1580+1623/, такой складанай і неадназначнай. Ён прыехаў у Вільню маладым хлопцам вучыцца на купца. Хадзіў у Сьвята-Троіцкую царкву, сьпяваў там у хоры. Вялікая пабожнасьць хлопца зьвярнула на сябе ўвагу самога Іпацiя Пацея. Іпацi ўзяў Кунцэвіча ў кляштар паслушнікам, адправіў вучыцца ў Віленскую езуіцкую акадэмію, а ў 1604 годзе, калі Кунцэвіч скончыў навукі, мітрапаліт сам пастрыг яго ў манахі. Праз некалькі гадоў Іязафат стаў іераманахам.

Бог даў яму надзвычайную перакананасьць і надзвычайную здольнасьць пераконваць. Слова маладога сьвятара не зьмяшчалася ў межы Сьвята-Троіцкага кляштару і выплёсквалася на вуліцы Вільні. Кунцэвіч часта прапаведваў проста на плошчах і вуліцах места. Запрашалі якія гаспадары ў хату – ішоў у хату, не зважаючы, ці гэта палац уплывовага магната, ці хата рамесьніка, ці часовы жабрачы прытулак.

І слова ягонае зрабіла тое, што не па сілах аказалася нават каралеўскім указам: Вільня – даўны найбуйнейшы цэнтр Праваслаўя ў краіне - амаль цалкам сталася уніяцкаю.

Таму й прыдумалі для яго раззлаваныя братчыкі мянушку „душалоўца" („душехват").

А быў Кунцэвіч аскетам, дысцыплінаваў цела сваё доўгімі пастамі і самабічаваньнямі, насіў вярыгі пад вопраткай. Высокі, тонкі, суворы, з пранізьлівым палымяным паглядам – такім яго ведалі віленчукі й навакольныя сяляне, слава аб ім пранеслася па ўсім Вялікім княстве Літоўскім.

І калі ён, ужо ў біскупскім сане, прыехаў у Полацак у якасьці коад'ютара Полацкага архімандрыта, – жыхары гораду сустрэлі яго сьвяточным шэсьцем. Кабеты ў строях, рамесьнікі з цэхавымі сымболямі, сьсівелыя дзядкі – палачане ўсіх узростаў і саслоўяў высыпалі на вуліцы, каб прывітаць Іязафата. Прычым большасьць зь іх былі праваслаўныя (!). І полацкія езуіты выйшлі ў поўным складзе сустрэці новага іерарха.

Стаўшыся ў 1619 годзе Полацкім архібіскупам, Іязафат папрасіў мітрапаліта аддаць пад ягоную юрысдыкцыю ўвесь паўночна-усходні край Княства – Магілёў, Воршу, Вітабск. Гэта ж колькі трэба было мець мужнасьці, каб сьвядома абраць менавіта гэтыя землі – самыя праваслаўныя ў Беларусі, самыя падуплыўныя Маскве, з самай разгалінаванаю сыстэмаю брацтваў і, адпаведна, найбольш варожыя да Уніі і самога Кунцэвіча. Ён паставіў перад сабой амаль нявырашальную задачу: пасеяць на гэтай няўдзячнай глебе залатое зерне Еднасьці. Бо бязьмежнаю была вера ягоная ў сьвятасьць свае справы і ў неабходнасьць свае місіі.

Праваслаўныя брацтвы ўсю энергію накіравалі супраць новага архібіскупа. І вельмі хутка яны атрымалі магутную падтрымку.

У 1620 годзе з Масквы ў сваю рэзідэнцыю вяртаўся Канстанцінопальскі патрыярх Тэафан. Спыніўшыся ў Кіеве, ён зрабіў надзвычай небясьпечны жэст: высьвяціў колькі праваслаўных сьвятараў у біскупы на епархіі, занятыя уніятамі. Гэта ўжо быў ня проста раскол – гэта было абвяшчэньне адкрытай бязьлітаснай вайны.

На архібіскупа Полацкага быў высьвячаны адзіна варты Кунцэвіча чалавек – Мялеці Сматрыцкі. Той самы Сматрыцкі, якога праваслаўныя літаральна абагаўлялі за ягоны „Трынас" – вельмі таленавіты, пранізьлівы твор аб „няшчаснай маці" – Праваслаўнай царкве. Кароль сьпецыяльным указам забараніў распаўсюджваць „Трынас" як накіраваны на раскол дзяржавы і зьневажаньне ўладаў. Але яго тым больш пачалі набываць, распаўсюджваць, перапісваць і перавыдаваць – бо адзін гэты твор быў варты сотні ранейшых палемічных выданьняў, больш падобных на вулічную лаянку, чым на слова рэлігійных дзеячаў.

І вось цяпер патрыярх Тэафан сутыкнуў ілбамі гэтых двох выдатных сьвятароў, роўна славутых і папулярных.

Сматрыцкі адразу павёў сябе ня лепшым чынам. Прыехаўшы ў Вітабск, ён проста ў царкве абвясьціў, што сваёю архібіскупскай уладаю пазбаўляе Іязафата Кунцэвіча духоўнага сану і адлучае ад царквы. Граматы аб гэтым ён разаслаў па ўсёй Кунцэвічавай епархіі, а братчыкі зларадна агалошвалі іх на кожнай гарадзкой плошчы, у кожнай вёсачцы. Шмат што дадавалі яны і ад сябе, распальваючы такім чынам антыуніяцкія настроі.

Кароль спрабаваў злавіць і аддаць пад суд Сматрыцкага, але той, нідзе падоўгу не затрымліваючыся, быў няўлоўным.

Іязафат мусіў прымяніць сваю ўладу. У мястэчках, дзе сьвятары адмаўляліся яму падпарадкоўвацца і падбухторвалі супраць яго жыхароў, архібіскуп зачыняў і апячатваў цэрквы. Праваслаўныя адказвалі бунтамі.

Леў Сапега, які не жадаў ніякага прымусу ў пашырэньні Уніі, даслаў Іязафату ліста з просьбай (і нават патрабаваньнем) дзейнічаць безгвалтоўна. Але ўсё зайшло надта далёка. Бяда няўхільна набліжалася . . .

У лістападзе 1623 году Іязафат Кунцэвіч прыехаў у Вітабск – супакоіць людзей. Але там яго ўжо чакалі. Сэрцы мяшчанаў былі перапоўненыя чорнаю злосьцю, і ніякага слова слухаць яны не жадалі. На сваіх патаемных сходках пастанавілі яны забіць архібіскупа. Вось толькі „героя" не знайшлося. І тады вырашылі яны ісьці натоўпам, усім разам, каб ня так страшна было ў вочы свайму ўладыку зазірнуць.

У нядзелю 12 лістапада падступіў натоўп, прагнучы крыві, да палацу Іязафатавага. Пачалі зьбіваць варту. Тады выйшаў на ганак сам архібіскуп.

Натоўп зароў. Іязафат сказаў спакойна: „Нашто зьдзекуецеся зь людзей маіх? Вам патрэбны я – вось я".

Не сталі чакаць забойцы, кінуліся на ганак і – сякераю ў твар – забілі Іязафата.

Схапілі цела ягонае, білі, мёртвага, і пацягнулі да Дзьвіны, і кінулі ў раку.

Вярнуліся да палацу ды распачалі вялікі рабунак. Усё, што можна было вынесьці, – вынесьлі, а што нельга было – панішчылі. І балявалі яны на радасьцях, адвагаю ўласнаю гордыя: забілі цэлым горадам аднаго чалавека! І сталася віно ў іхных кубках крывёю.

Кінуліся уніяты ды каралеўскія пасланьнікі шукаць цела Іязафата. І ўбачылі яны сноп



Мялеці Сматрыцкі

сьвятла, што ішло проста зь Дзьвіны. Па гэтым сьвятле й знайшлі цела. А было яно нятленнае, хоць колькі дзён у вадзе праляжала, і з раны на ілбе пачылася сьвежая кроў.

Праз год Папа Урбан ІУ далучыў Іязафата Кунцэвіча да ліку сьвятых пакутнікаў.

А горад Вітабск быў пакараны зямным судом. Кароль пазбавіў яго магдэбургскага права і перадаў ваяводзе. І доўга пасьля ляжаў на гэтай зямлі цень страшнага забойства.

Сьвяты Іязафаце, маліся за нас!

А што ж Мялеці Смартыцкі, няспраўджаны архібіскуп Полацкі? Праз чатыры гады пасьля трагедыі ў Вітабску, да якой ён так ці інакш прычыніўся, Смартыцкі . . . стаўся уніятам.

Ён доўга хаваўся ад каралеўскае помсты за забойства Іязафата, а потым паехаў на Усход – на славутую гару Афон, у Канстацінопаль, на сьвятыя землі Палестыны – з пэўнай міссыяй ад Кіеўскага мітрапаліта Іова да Канстанцінопальскага і Ерусалімскага патрыярхаў і, галоўнае, з мэтаю паглядзець на сапраўднае, спрадвечнае Праваслаўе. Як ён сам пасьля пісаў, „каб даведацца, ці тая самая ў нас вера, якая была і ў бацькоў нашых, якую мы прынялі ад іх па Божай волі і атрымалі ў спадчыну нашыя прадзеды; даведацца, ці мы сягоньня пьем тую самую духоўную ваду, якую пілі нашыя прашчуры, заснавальнікі і будаўнікі рускай царквы; даведацца, ці яна выплывае з Евангельскіх крыніцаў, ці прыемная смакам, ці здарова як раней".

Паглядзеў. Даведаўся. Пабачыў скрозь няпісьменнасьць, грубасьць, маральную апушчанасьць вернікаў, сьвятароў, іерархаў. Пазнаёміўся з Ерусалімскім патрыярхам Лукарысам і з напісаным ім катэхізмам. Жахнуўся, адчуўшы ў ім „ерэтычны" пратэстанцкі дух. Зразумеў, што ня дбаюць ды ня дбалі ніколі ўсходнія патрыярхі аб ягоным народзе, аб веры, аб душы ягонай – але толькі аб грашовых прыбытках.

Літасьцівы Божа! Дык што ж ён, Мялеці, абараняў?! За што, за якую праўду змагаўся? Якога шчасьця зычыў зямлі сваёй?

І тады прасьвятліўся розум ягоны, ачысьцілася сэрца, і зразумеў Мялеці, дзе шукаці трэба.

Уніяцкія й каталіцкія біскупы лічылі Смартыцкага найлюцейшым ворагам сваім. Але мітрапаліт Руцкі, поўны ласкі да апамятаўшага біскупа, даў яму ў 1627 годзе Дэрманскую архімандрыю і бласлявіў шчыра.

Няпросты быў далейшы шлях Мялеція Смартыцкага. Мусіў ён пад пагрозамі выкарацца веры уніяцкае, а пасьля пісаці палымяныя творы ў абарону Уніі. І настолькі ўмацаваўся дух ягоны, што пачаў Мялеці аб'язджаць праваслаўныя цэрквы й кляштары ды ўгаворваць сьвятароў далучацца да Грэка-Каталіцкае царквы, каб паяднаць „Русь з Русьсю". А потым, зразумеўшы марнасьць гэтых высілкаў, вырашыў зьвяртацца да ўсяго праваслаўнага народу Рэчы Паспалітай, да людзей простых, каб прыступілі яны да сьвятой Уніі самі, без пасрэдніцтва сьвятароў. Але зьдзейсьніць мары свае гэты дзіўны чалавек не пасьпеў, бо ягонае жыцьцё абарвалася ў 1630 годзе, праз тры гады пасьля прыняцьця ім Грэка-Каталіцкае веры.

Неўзабаве, у 1633 годзе, памёр Леў Сапега – самы шчыры абаронца дзяржаўных інтарэсаў Княства, змагар за нацыянальную й палітычную незалежнасьць Беларусі. За ягонаю сьмерцю пачынаецца паступовы заняпад беларускае дзяржаўнасьці і разам зь ёю Уніяцкае царквы. Рэч Паспалітая ўсё больш атаясамліваецца з Польшчай.

У 1696 – 97 гадох беларуская мова была выкінута з прававога і дзяржаўнага ўжытку. Распачалася імклівая паланізацыя краю. Нават у праваслаўных пачатковых школах і сэмінарыях для дапамогі ў вывучэньні царкоўна-славянскае мовы выкарыстоўвалася польская мова.

Усе дзяржаўныя пасады займалі каталікі; уніяты так і не атрымалі мейсцаў у Сойме. Базыльлянін Пятроні Камінскі, аўдытар Грэка-Каталіцкае мітраполіі, у 1685 годзе пісаў з гаркотаю, маючы на ўвазе палякаў: „яны хацелі б у сваёй нявытлумачанай нянавісьці, каб Русі чым хутчэй ня было. А з-за таго, што гэта стацца ня можа інакш, як пасьля зьнішчэньня абраду, дык перасьледуюць грэцкі абрад на кожным кроку".

Шляхта, каб далучыцца да дзяржаўных даброт і выгодаў, дабраахвотна пераходзіла ў Каталіцтва ды апалячвалася. Праваслаўныя, асабліва ўкраінскае казацтва, пазіралі ў бок Масквы /у студзені 1654 года на Перыяслаўскай радзе Багдан Хмяльніцкі абвясціў аб далучэньні гэтых земляў да Масковіі: „Навечна з Масквой, навечна з рускім народам!"/.

І ўвогуле, амаль усе праваслаўныя іерархі, грэбуючы жывой народнаю моваю як „мужыцкаю", грэбавалі і носьбітам гэтае мовы – сваім народам. І ўсё шчыльней гарнуліся да Масквы, дзе Праваслаўе было дзяржаўнай рэлігіяй, і сьвятары мелі ўсе магчымыя ды немагчымыя прывілеі. Гэта прывяло да таго, што ў 1686 годзе Кіеўская праваслаўная мітраполія апынулася пад юрысдыкцыяй Маскоўскай патрыярхіі.

Беларуская мова сталася моваю сялянаў ды Уніяцкае царквы. У новых варунках, што скláліся ў Рэчы паспалітай, Унія апынулася па-за палітычным жыцьцём дзяржавы. Як, зрэшты, і цалкам увесь беларускі народ. І яна, Унія, абслугоўвала духоўныя патрэбы свайго народу.

Самы канецХУІІ стагодзьдзя для уніяцкае царквы стаў вельмі складаным. Цяжка было прыстасавацца нават да новых матэрыяльных умоваў: магнаты і шляхта, якія заўсёды выдаткоўвалі на царкву немалыя сродкі, падаліся ў Каталіцтва, дзяржава таксама адвярнулася ад уніятаў. Значна зьменшылася колькасьць друкаванай прадукцыі, кляштары прыходзілі ў запусьценьне і бязьлюдзелі альбо падтрымліваліся двума-трыма манахамі. Той самы Пятроні Камінскі так, напрыклад, апісваў сучасны яму стан славутага базыльлянскага кляштару сьв. сьв. Барыса і Глеба на Каложы пад Гароднай: „А ў Гародні? Быў таксама слаўны манастыр з тытулам архімандрыі. Цяперака няма ніякага сьледу ад кляшторных цэляў. Царква ўжо колькідзесят гадоў стаіць пустая і замкнёная. Толькі вераб'і шчэбетам сваім пяюць у ёй славу Богу".

Усей Уніяцкай царкве неабходна было перавесьці дых.

Новы імпульс даў пачатак ХУІІІ стагодзьдзя. Да Уніі далучылася значная частка праваслаўнай Украіны – Перамышль /1682/, Львоў /1700/, Луцк /1702/.

У 1720 годзе ў Замосьці /тэрыторыя Кароны/ уніяцкі мітрапаліт Лявон Кішка правёў Сабор, які меўся сканцэнтраваць і сарганізаваць усе уніяцкія сілы дзеля паляпшэньня становішча з цэрквамі, з кляштарамі, з асьветай. Усе уніяцкія кляштары былі зьведзены ў адну кангрэгацыю. Заснавана новая духоўная сэмінарыя для падрыхтоўкі кваліфікаванага сьвятарства. Уніяцкая царква сьвядома засталася разам са сваім пагарджаным народам. Набажэнствы

праводзіліся па-беларуску, па-беларуску ж пісаліся уніяцкія духоўн я і сьвецкія вершы. Нават самая мова беларуская часам называлася уніяцкаю.

На працягу ХУІІІ стагодзьдзя Унія пашырылася практычна на ўсю Беларусь. Без аніякага прымусу, бяз гвалту. Проста сталася яна адзіна магчымым шляхам да Бога, да праўды. Бо яна адзіная засталася ў любові і да Бога, і да свайго народу.

І сьпявалі беларусы страсныя, пакутныя ўніяцкія духоўныя гімны.

О мой Божа! Веру Табе.
І ўсё веру я для Цябе.
Усю надзею ў Табе маю,
За ўсё Цябе выхваляю.

Ты стварыў, Ты адкупіў,
Ты мяне, Божа, асьвяціў.
Няхай Табе, дзе ёсьць людзі,
Чэсьць і хвала будзе.

Табе, Божа, кланяюся,
Ва ўсім на волю здаюся.
А быць хачу толькі ў небе,
На ўсе вякі любіць Цябе.

Цалуючы Твае раны,
Збавіцелю наш каханы,
Рукі, вочы к небу ўзносім,
Адпушчэньня грахоў просім.

О Марыя! Маці Божа!
Ты найчыста і прыгожа.
Прычыньніся к Богу за намі,
Нягоднымі грэшнікамі!

Усе сьвятыя гляньце зь неба!
Вашай ласкі нам патрэба:
Маліцесь к Богу за намі,
Нягоднымі грэшнікамі!

І сапраўды, абараніць беларусаў маглі толькі сьвятыя. Бо пад час вынішчальных войнаў паміж Расеяй, Польшчай, Швэцыяй, Аўстрыяй на працягу ХУІІІ стагодзьдзя наш край амаль абязьлюдзеў: ледзь не 70 працэнтаў насельніцтва было зьнішчана, ды і тыя, што засталіся жывымі, паўцякалі з разбураных вёскаў.

Першыя ўдары па беларусах прымала на сябе Уніяцкая царква. У 1705 годзе рускае войска пад зьверхніцтвам Пятра І увайшло ў Полацак. Полацкія базыльляны спрабавалі спыніць вынішчэньне людзей і прымусовы загон іх у расейскае войска, спрабавалі перашкодзіць рабунку і паленьню свайго кляштару й цэркваў.

Але ня здолелі. Пётр І уласнаручна забіў архімандрыта, ды яшчэ некалькіх сьвятароў загадаў закатаваць і кінуць у Дзьвіну. Царкву замкнулі, а шмат народу пагналі ў глыб Расеі.

У хуткім часе беларусам давялося больш блізка пазнаёміцца з расейскімі царамі ды з расейскаю рэлігійнай палітыкай /жахліва блізка пазнаёміцца!/.

Падзеі разварочваліся з усё большай хуткасьцю, пятля вакол Уніі сьціскалася.

1772 год. Першы падзел Рэчы Паспалітай. Беларускія землі на ўсход ад Дняпра ды на поўнач ад Дзьвіны апынуліся пад Расеяй. Кацярына ІІ „атрымала ў спадчыну" прыкладна 1 мільлён 200 тысячаў беларусаў, і зь іх 800 тысячаў уніятаў, 300 тысячаў праваслаўных і 100 тысячаў каталікаў /між тым, менавіта гэтая частка Княства была самая праваслаўная, на захад ад Дняпра Праваслаўя амаль што ня было. Але ж галоўным ідэялягічным апраўданьнем захопу Беларусі Расеяй было якраз „вызваленьне адзінаверцаў"/. Царыца Кацярына напачатку моцна разгубілася, атрымаўшы столькі душаў зь „ня той" рэлігіяй, А пасьля вырашыла цьвёрда: колькасьць „ня тых" скараціць, колькасьць „тых" максімальна павялічыць. І дазволіла ласкава пакінуць адно грэка-каталіцкае архібіскупства – у Полацку, і дамаглася, каб архібіскупам быў прызначаны Лісоўскі, якому імпэратрыца магла больш-меньш давяраць.

1793 год. Другі падзел Рэчы Паспалітай. Пад Расею адыйшла тэрыторыя на ўсход ад лініі Друя – Пінск. Палітыка на скарачэньне колькасьці уніятаў набывае велізарны размах. Стварыліся безьліч сьпецыяльных групаў, якія езьдзілі па Беларусі і любымі сродкамі наварочвалі людзей на Праваслаўе. У ходу ішлі пагрозы, спойваньне сялянаў, арышт „непакорных", падлогі і г. д.

1794 год. Ствараецца Менскае праваслаўнае біскупства на мейсцы зьнішчанага уніяцкага.

1795 год. Трэці падзел Рэчы Паспалітай. За кошт беларускіх земляў „узбуйняюцца" усе тры дзяржавы-падзяляльніцы. Да Прусыі адыходзяць гарады Горадзеншчыны і Віленшчыны, частка Троцкага ды Беластоцкага ваяводзтваў. Частка Берасьцейшчыны апынулася пад Аўстрыяй. Рэшткі Беларусі ўваходзяць у склад Расейскай імпэрыі, дзе працягваецца гвалтоўнае далучэньне да Праваслаўя.

1796 год. Пасьля сьмерці Кацярыны ІІ на імпэрскі трон узыходзіць ейны сын Павел І Раманаў. Ён працягвае і разьвівае ранейшую рэлігійную палітыку.

1798 год. Адбываецца новы падзел Уніяцкае царквы на дыяцэзыі, у выніку якога засталося ўсяго тры біскупствы – Полацкае, Берасьцейскае ды Луцкае.

1801 год. Павел І забіты высокапастаўленымі змоўшчыкамі. Царом становіцца старэйшы сын Паўла Аляксандр І. У гэты ж год пры Каталіцкай калегіі ў Пецярбургу /асноўную ролю ў якой адыгрывалі сьвецкія асобы/ утвараецца Уніяцкі дэпартамэнт – дзеля ўплыву ці, хутчэй, ціску на духавенства.

1825 год. На трон узыходзіць сын Паўла І Мікалай І. Дэвізам сваёй унутранай палітыкі новы імпэратар абвясьціў „Самадзяржаўе, Праваслаўе, Народнасьць", гэта значыць, афіцыйны курс на русыфікацыю ды праваславізацыю нярускіх народаў.

Дыхаць становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Пятля сьціскаецца на вачох. Застаўся адзін, апошні, рывок – і ахвяра забьецца ў агоніі. Ахвяраю – Уніяцкая царква і Беларусь у вадной асобе.

Сьвяты Іязафаце, маліся за нас!

## 4. СКОН

Спробай вырвацца зь пятлі было паўстаньне 1831 году. Але імпэратар Мікалай упэўненай рукою раздушыў гэтае паўстаньне.

З гэтага часу царская палітыка ў дачыненьні беларусаў акрэсьліваецца вельмі выразна: гэта спрадвеку рускі народ, малая частка вялікага й непадзельнага адзінага цэлага, і неабходна як найхутчэй любымі сродкамі давесьці гэта яму ды ўсяму сьвету (што, дарэчы, з посьпехам і было выканана). Беларусь як зьява – касьмічная й гістарычная – павінна быць зьнішчана. Зьдзесьніць гэта мажліва толькі адным спосабам, выпрабаваным раней палякамі, – адабраць у народа ягоную рэлігію і замяніць яе сваёй. Як казаў Пятроні Камінскі, зьніштожыць абрад.

І ўжо у 1832 годзе Мікалай і скасоўвае ордэн Базыльлянаў, зачыняе уніяцкія кляштарныя школы і забараняе ўвогуле друкаваць і распаўсюджваць любыя уніяцкія кнігі.

Утвараецца сытуацыя, апісаная Караткевічам у цудоўнай навэле „Кніганошы", калі здабыць кнігу, напісаную народнаю моваю – уніяцкую кнігу, – можна было толькі з-за мяжы, з Прусы ці Аўстрыі, дзе Уніяцкая царква працягвала вольна існаваць (бо толькі расейскім уладам магло прысьці ў галаву адбіраць у людзей веру). І ішлі празь мяжу зь небясьпекаю для жыцьця сяляне-кніганошы з лубянымі корабамі, поўнымі кніг, за плячыма. І былі тыя кніганошы ў большасьці сваёй няпісьменныя, але то была адзіная іхная магчымасьць пратэсту, але ведалі яны, што нясуць с в а ю кнігу, для сваіх людзей.

Уніяцкая кніга становіцца сымбалем незалежнасьці беларускага духу, галоўнай прыкметай нацыянальнага самаўсьведамленьня. І таму з гэтымі кнігамі вялася няспынная вайна. Нішчэньне уніяцкай друкаванай прадукцыі пачынаецца ўжо ў 1834 годзе. Колькі іх будзе потым – вогнішчаў зь беларускіх кнігаў! А пакуль, у 1834 годзе яны былі рэдкімі, прылюднага паленьня народных сьвятыняў (а кніга ў нас заўсёды, ва ўсе часы была сьвятыняю) улады яшчэ баяліся.

Але прынятыя меры былі толькі ўступам. Бо Унія яшчэ жыла. Унія змагалася і верыла. А значыцца, жыла, змагалася й верыла Беларусь...

І празьвінелі тады трыццаць срэбранікаў у працягнутую далонь біскупа Полацкага Язэпа Сямашкі. У глыбокай кішэні заціх іхны звон. І так пяклі яны праз кішэнную тканіну цела біскупава, што ня мог ён ані прысесьці, ані прылегчы спакойна, покуль не засеяў насеньнем Юдавым сэрцы сьвятароў уніяцкіх, покуль не ўзгадаваў чорныя парасткі здрады, покуль не сабраў плёну.

І склікаў ён тады сабор у Полацку. Тры біскупы ды тысяча трыста сьвятароў сабраліся на гэты – апошні! – уніяцкі царкоўны сабор.

### ✝ 12 лютага 1839 г.

12 лютага 1839 году ўдзельнікі Полацкага сабору на чале з біскупам Сямашкам пісьмова выракліся Уніі і аддалі яе на зьдзек чужаніцам ды згубу.

У сакавіку Праваслаўны сынод зацьвердзіў рашэньне Полацкага сабору і прыняў блудных дзетак у лона сьвятой і адзінай Рускай Праваслаўнай Царквы.

Труну зь целам сьвятога Іязафата Кунцэвіча выцягнулі з Полацкага кафэдральнага сабору і зглумілі сьвятыя мошчы.

І вось тады стала Беларусь суцэльным кніжным вогнішчам. І зноў зазьвінеў над ёю пераможна вялікодны „сухі верабей".

Але бунтаваў народ, паўставалі шматлікія сьвятары супраць гвалту, бо не дазваляла ім сэрца выракацца веры сваёй. Шмат людзей былі забітыя за вернасьць Уніі, яшчэ болей – пагнаны ў Сібір (яна вялікая, усім месца хопіць!). Лютаваў біскуп-адступнік, усё сваю адданасьць самадзяржаўю расейскаму выказваў.

Праз год біскуп Сямашка стаў архібіскупам Літоўскім і Віленскім, а ў 1852 годзе – мітрапалітам.

А трыццаць срэбранікаў усё палілі ягонае сэрца, і каб паменьшыць той пякельны боль, Сямашка паліў беларускія уніяцкія кнігі, пераплаўляў залатыя ўніяцкія лампадкі, пацiры, аклады... І каб заглушыць той боль, праводзіў Сямашка актыўную русыфікацыю свайго краю, і стаў Сямашка самым дбалым паплечнікам Мураўёва-вешальніка ў 1963-64 гадох.

Бо адным з галоўных пунктаў праграмы паўстанцаў Каліноўскага было вярнуць народу ягоную веру, спыніць рэлігійны ціск і гвалтоўнае наварочваньне на Праваслаўе. Шосты нумар „Мужыцкае праўды" Кастусь Каліноўскі цалкам прысьвяціў Уніі.

> „Калі Бог, ствaрыўшы чалавека, даў яму душу, то не на тое, каб ён жыў як сабака на гэтым, а на тым сьвеце прападаў на век вякоў у муках пякельных, – а для таго, дзяцюкі, каб знаў закон Божы; знаў свайго Бога, знаў веру і заслужыў на шчасьце нябеснае", –

пісаў Яська-гаспадар з-пад Вільні.

> „Але ці гэтак, дзяцюкі, робіцца ў нас, як сам Бог прыказвае, ці дзяржымася закону Боскага? Самі скажыце. Ні адзін, ужо, мажа, забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжо ня спомніць на тое, што перавярнулі яго на сызму, на праваслаўе, што ён сягоньня, як той сабака, жыве бяз веры і як сабака здохне чарцям у пекла!!! (...) Цяпер пытаю вас, дзяцюкі, – хто ж нам гэта ліха нарабіў, і што зрабіці трэба, каб мы жылі шчасьлівыя і на гэтым, і на тым сьвеце?
>
> Нарабіў нам гэтага ліха, дзяцюкі, цар маскоўскі, ён то перакупіўшы многа папоў, загадаў нас у сызму запісаць, ён то плаціў грошы, каб мы толькі пераходзілі на праваслаўе і, як гэты антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую – уніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам на вякі; а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы ня меў зьлітаваньня над намі.
>
> Але, Божа ўсявышні, міласэрны Ты наш Пане, Ты аб нас не забывай, зьлітуйся над намі, пaмажы нам у нашай нядолі, выгані маскаля з нашага краю, дай нам праўдзівую вольнасьць і веру нашых дзядоў і прадзедаў, а касьцёлы, што маскаль, нячыста яго сіла, параскідаў альбо перарабіў на стайні і цэрквы, зноў заясьнеюць Тваёю славаю і народ у іх хваліці Цябе будзе, як хвалілі нашыя продкі. Засьпяваем тады ў адзін голас нашу песьню сьвятую: „Сьвяты Божа, сьвяты моцны, сьвяты несьмяротны – зьлітуйся над намі!" і Бог найвышшы зьлітуецца над намі, дапаможа нам у нашай працы, а на тым сьвеце дасьць каралеўства нябеснае – і не будуць ужо дзеткі нашыя сваю матку праклінаці, што на сьвет радзіла!
>
> Паказваюць людзі, што сьвяты Айцец аж з Рыму прыслаў ужо да нас сваё блаславеньне, (але маскаль яго спыняе) – гавораць, што прышлe і ксяндзоў, што будуць прымаці на ўніяцкую веру. Тады, дзяцюкі, хто адно верыць у Бога, яго Сына і Духа Сьвятога, няхай зараз пакідае сызму і пераходзіць на праўдзівую веру дзядоў і прадзедаў".

Але патоплена ў крыві паўстаньне Каліноўскага, і зь ім забітая яшчэ адна надзея захаваць Унію. І каб раз і назаўсёды скончыць зь ёю, у 1874-75 гадох зьнішчылі Унію на тэрыторыі Польшчы. І засталася яна толькі ў Аўстрыйскай дзяржаве – у Закарпацьці і ў Галіцыі. Так, на сто гадоў пазьней прынятая, Галіцкая Унія на сто гадоў болей і пратрымалася – да 1946 году.

А наша Унія-пакутніца гарэла ў вогнішчах, расстрэльвалася казачымі кулямі, гібела ў Сыбіры. І замерла Беларусь у ледзяным сьне, магільным сьне...

Божа, зьлітуйся з нас!

## 5. УВАСКРОШАНЬНЕ

Але не сканае Унія, покуль жывы на Беларусі хаця адзін уніят.

Славіць Бога па-беларуску было забаронена, і самое слова „Беларусь" старанна сьціралася з памяці чалавецтва. І быў у разгары экспэрымэнт па зьнішчэньні самабытнасьці, унутранай сутнасьці цэлага эўрапэйскага народу. Народ наш у масе сваёй не супраціўляўся варожаму зьнешняму ўзьдзеяньню – народ проста быў. Ягоную глыбінную існасьць, цэласнасьць ягонае сьветабудовы, ягоную непасрэдную ўнутраную сувязь зь Небам – і зь зямлёю – зьнешнія ўзьдзеяньні не маглі істотна закрануць. Ім паддавалася толькі невялікая адукаваная частка беларусаў, якая ў сваім імкненьні да асьветы ўлівалася ў расейскую альбо польскую культуры – бо свая культура – у эўрапэйскім разуменьні гэтага слова – ужо практычна не разьвівалася.

Але нездарма ў культуравым сэнсе наш народ стаў народам-донарам. Не „вялікія" народы падпітвалі „меньшага брата", а меньшы, да таго ж заціснуты большымі, няспынна й шчодра жывіў іх творчай матэрыяй ды творцамі.

Беларуская інтэлігенцыя дзейнічала. І менавіта яна ўзгадавала шматлікіх бунтароў – паўстанцаў, рэвалюцыянераў, змагароў за нацыянальную незалежнасьць, за народную ідэю.

Сялянства было нярухомым. Сялянства захоўвала Беларусь. Сялянства цяпер падсьвядома ня ўблытвалася без асаблівае патрэбы ў сацыяльна- і нацыянальна-вызваленчую барацьбу – бо інакш можна было згубіць усё. Сялянства сьпявала старадаўныя песьні – абрадавыя й царкоўныя, жыло па-свойму, думала па-свойму, малілася па-свойму.

Нягледзячы на жорсткую забарону, рэгістраваліся калі-нікалі уніяцкія хросты ды шлюбы. На Гародзеншчыне, на Віленшчыне і, асабліва ўпарта, на Палесьсі. Памяталі людзі веру сваю.

Надыйшло дваццатае стагодзьдзе. Прынесла з сабою нечуваныя палітычныя ўзрушэньні. На Беларусі з інтэлігентаў-адзінак пачаўся нацыянальна-адраджэнцкі рух – не надта пакуль шматлюдны, але ж вельмі духоўна канцэнтраваны.

Вырасла ўжо некалькі пакаленьняў беларусаў, якія ня ведалі Уніі, ня ведалі гісторыі свае, колішняе славы свае ды шляху свайго. Адраджэнцы мусілі пакутліва аднаўляць сваю нацыянальную сьвядомасьць, гістарычную памяць, мусілі самастойна шукаці свае каардынаты ў часе і ў сусьвеце, шукаці прызначэньне сваё ды народу свайго на гэтай зямлі. Нярухомасьць, духоўную канстанту народа яны называлі летаргічным сном. Яны баяліся гэтага сну, які мог зацягнуцца на небясьпечна доўгі час і зьліцца са сьмерцю. Сьмерць твайго народу, у якога адабралі ўсё, нават веру! Што можа быць страшнейшае за гэта? І адраджэнцы імкнуліся збудзіць народ, разварушыць яго да самых глыбінаў.

Усьведамленьне балючай гістарычнай несправядлівасьці, што зрабіла Беларусь палаЛнянкаю, што навісла чорнаю хмараю над гэтай краінай, прымушала паэтаў-адраджэнцаў слаць ад Бога горкія скаргі ды гарачыя малітвы за абуджэньне Беларусі, за лепшую долю яе. Слаўны Янка Купала, які ўзяў усю немагчымую крыўду народную ды ўзьняў яе да зораў, зрабіўшы яе сусьветнаю зьяваю, касьмічнаю зьяваю, ды выліў яе вялікім плачам-малітваю, – Янка Купала надзвычай востра адчуваў боль за забітую веру беларусаў. І з самога сэрца ягонага вырываўся папрок Богу, папрок „Цару неба й зямлі":

За што, о Божа праведны, магучы,  
Караеш так няшчасны свой народ?!  
Чаму на стогн маўчыць Твой гром бліскучы,  
На стогн, што да Цябе йдзе з году ў год?

Ты ў цьвет сваіх нялічаных народаў  
Мінуўшчыну і будучыну ўбраў,  
А ў нас – караючы чужой свабодай –  
Мінулае – і тое адабраў.

Бадзяцца кінуў па нязьмерным сьвеце,  
Нявольнікамі кінуў нас гібець  
За тую веру, што бацькі і дзеці  
Лет сотні ў моц Тваю вучылісь мець.

1920 год зноў – у які ўжо раз! – падзяліў Беларусь дзяржаўнай мяжой. У Заходняй Беларусі пачаўся рух за адраджэньне Уніяцтва. „Я веру ў нейкае вяліка Аб'яднаньне, ці як завуць яго з лаціны – Уніонізм..." – пісаў у вершы „Веру нярозуму працію" найвыдатнейшы беларускі рэлігійны і культурны дзеяч паэт Казімір Сваяк.

У 1923 годзе ў Ватыкане была ўтворана сьпецыяльная камісія па справах Уніі на тэрыторы ўсходняй Польшчы. У 1926 годзе ў Вільні біскупская канфэрэнцыя дазволіла закладаць уніяцкія парафіі. Пачаў выдавацца часопіс „Да злучэньня". Айцы Марыяны ў Друйскім і Альбертынскім кляштарах актыўна займаліся справай аднаўленьня Уніяцкае царквы на Беларусі.

Але палітычныя ўлады Польшчы, якія рэзка непрыймалі ўсё беларускае, якія мелі на мэце зрабіць Польшчу „нацыянальна аднароднай" дзяржавай і руплiва выкаранялі беларускасьць са сьвядомасьці беларусаў, – вельмі няпрыхільна, а потым нават варожа, паставіліся да ідэі ўзнаўленьня ўсходняга абраду. Блакіравалася як беларусызацыя Рыма-Каталіцкага касьцёлу ў беларускіх прыходах, так і стварэньне Грэка-Каталіцкага. Але беларускія сьвятары-каталікі верылі ў адраджэньне бацькаўшчыны, і Казімір Сваяк пісаў:

Пашлі мне, Божа, пару такую,  
Калі пачнём мы імшу сьвятую  
За край наш родны апраўляць;  
Бо вельмі цяжка, што мова наша –  
Розуму й сэрца нашага паша –  
Ня ўмее Бога выслаўляць.

Перад самай Другой сусьветнай вайной польскі ўрад выслаў Марыянаў, што займаліся Уніяй, за межы дзяржавы. Так утварылася першая беларуская уніяцкая эміграцыя.

А ў верасьні 1939 году Заходняя Беларусь была зноў зьведзена ў вадну дзяржаву з усходняй. Новыя ўлады вынішчылі рэшткі уніяцтва на Беларусі і закатавалі альбо выслалі ў далёкія лягеры уніяцкіх сьвятароў.

Але ўжо была эміграцыя, і традыцыя жыла. Гэтая традыцыя пашыралася пасьля сканчэньня вайны, калі ў эміграцыі апынулася значная частка беларусаў.

У 1946 годзе ў Львове адбыўся царкоўны Сабор, які зьнішчыў Грэка-Каталіцкую царкву ў былой Галіцыйскай, а цяпер савецкай Украіне. Але тут сытуацыя была іншая: людзі і сьвятары добра ведалі сваю веру, і царква працягвала існаваць, толькі на нелегальным становішчы. Царква на Украіне здолела захаваць усе свае структуры, свае кляштары, сэмінарыі і г.д.

У 1949 годзе мошчы сьвятога Іязафата Кунцэвіча былі перавезеныя ў Рым (да гэтага часу яны захоўваліся ў Вене). А ў 1963 годзе Рымскі папа Павел У1 усталяваў іх у бажніцы сьвятога Пятра побач з трунай Базыля Вялікага. І ўсё гэта было зроблена намаганьнямі ўкраінскіх уніяцкіх сьвятароў. Сорак гадоў „падпольля"

Заканчэньне глядзі на стар. 28



Алесь РАЗАНАЎ

## МАЛАНКА
## (УНІЯ)

Тады, калі я ўвайшоў у бажніцу і,
зачыніўшы дзьверы, стаў гутарыць зь небам,
зь неба раптоўна ўпала маланка і раскалола
бажніцу надвое.

Людзі, якія прыйшлі на сьвітаньні,
адбудавалі з адной яе палавіны бажніцу
сьвітаньня,
а людзі, якія прыйшлі на зьмярканьні,
адбудавалі з другой палавіны бажніцу зьмярканьня.

– Хадзі да нас, – заклікаюць мяне адны, –
гэта ж твая бажніца: ты зноў тут зможаш казаць
свае словы да неба...
– Хадзі да нас, – пераймаюць мяне другія, –
гэта твая бажніца: ты зноўку тут зможаш слухаць,
што кажа неба...

А я ўсё стаю на тым самым месцы,
здраньцвелы,
уражаны,
праясьнёны,
ня маючы мовы, каб гаварыць, –
з маланкаю ў сэрцы.

# «...НЕСЬЦІ ЛЮБОЎ І СЛОВА БОЖАЕ, ДАЦЬ ЛЮДЗЯМ ПАЦЯШЭНЬНЕ»



## а. АЛЯКСАНДР НАДСАН У МЕНСКУ

З 10-га па 16-е сакавіка г. г. на Беларусі знаходзіўся Апостальскі Візытатар для беларусаў грэка-каталікоў замежжа, Кансультатар Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў а. Аляксандр Надсан. Гэтага візыту доўгія гады чакалі ўсе тыя, хто разумее, якую ролю адыграла Уніяцкая /Грэка-Каталіцкая/ Царква ў гісторыі беларускага народу. Нажаль, умовы, у якіх сёньня жыве Беларусь, не дазволілі вельмішаноўнаму айцу Аляксандру зьдзейсьніць афіцыйны візыт на Радзіму ў якасьці Апостальскага Візытатара. Ён прыехаў да нас як старшыня Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі ў Ангельшчыне. І мэтаю ягонага прыезду адпаведна была перадача лекаў і лякарскіх прыладаў пацярпелым ад Чарнобыльскае катастрофы дзецям, а таксама азнаямленьне на месцы з наступствамі трагедыі, атрыманьне інфармацыі пра яе маштабы ды патрэбы Беларусі ў леках, лякарскіх прыладах і мэдычным абсталяваньні.

Цягнік, на якім ехаў Апостальскі Візытатар, прыбываў а пятай гадзіне ранку. Але, ня гледзячы на такі раньні час, на Менскім вакзале сабралася даволі вялікая грамада людзей з кветкамі, плякатамі „Чарнобыльскага шляху" і нацыянальнымі сьцягамі.

У нядзелю, 11 сакавіка, ў храме Падвышэньня Сьвятога Крыжа, што на Кальварыйскіх могілках, айцец Аляксандр адслужыў сьвятую Літургію за Беларускі Народ, якая сталася першаю каталіцкаю Багаслужбаю ўсходняга абраду ў беларускай сталіцы ад часоў зьнішчэньня Уніі ў 1839 годзе. На набажэнстве прысутнічала некалькі соцень чалавек, сярод якіх было шмат моладзі. Пад час літургіі а. Аляксандру дапамагаў беларускі каталіцкі сьвятар Ян Матусэвіч.

Айцец Аляксандр зьвярнуўся да прысутных з натхнёным пастырскім казаньнем. Гэта быў глыбокі, запамінальны ўрок Боскае Праўды для ўсіх, хто яе прагне, хто яе шукае. Узьдзеяньне сьвятых словаў нашага выдатнага першасьвятара сучаснае Беларусі ўзмацнялася натуральнай ягонай узрушанасьцю з прычыны вяртаньня на сваю Бацькаўшчыну пасьля 46-гадовай разлукі і з прычыны першае свае Грэка-Каталіцкае Багаслужбы на Беларусі.

Таго ж, дня ўвечары, у бібліятэцы імя Пушкіна адбылася сустрэча Апостальскага Візытатара зь беларускаю моладзьдзю, у якой таксама ўзяў удзел ксёндз Ян Матусэвіч. Пад час сустрэчы а. Аляксандр распавёў пра гісторыю Уніяцкае царквы, пра яе сучасны стан на Захадзе, пра

навуковае ды культурнае жыцьцё беларускай эміграцыі.

Дзеля выкананьня высакароднае мэты прыезду а. Аляксандру дапамагаў старшыня камітэту БНФ „Дзеці Чарнобыля" Генадзь Грушавы, цяперашні народны дэпутат БССР. Ён наладзіў наведваньне Апостальскім Візытатарам гематалягічнага адзьдзяленьня Першае Клінічнае бальніцы ў Менску і анкалягічнага дыспансэру ў Бараўлянах, дзе лечацца хворыя на лейкемію беларускія дзеткі. Айцец Аляксандр перадаў для іх прывезеныя лекі і лякарскія прылады, меў гутарку з кіраўнікамі ды супрацоўнікамі клінікаў, з бацькамі маленькіх ахвяраў Чарнобыля. У Беларускім Камітэце Чырвонага Крыжу а. Аляксандр дамовіўся наконт далейшага супрацоўніцтва з эміграцыяй у дапамозе ахвярам трагедыі, склаў сьпіс найбольш неабходных лекаў і мэдычнага абсталяваньня.

13 сакавіка а. Аляксандр разам з а. Янам Матусэвічам меў працяглую сустрэчу з рэдакцыяй „Уніі", пазнаёміўся з падрыхтаванымі матар'яламі для першага /гэтага/- нумару нашага выданьня, з далейшымі планамі адраджэньня Уніяцкае веры на Беларусі. Апостальскі Візытатар ухваліў ды блаславіў будучае выданьне. Сябры рэдакцыі знаходзяцца пад узьдзеяньнем прыцягальнае цяплыні, шляхотнасьці, духоўнае сілы і інтэлектуальнае дасканаласьці гэтага чалавека і дзякуюць Богу, што Ён прызначыў менавіта яго нашым першым душпастырам.

На наступны дзень а. Аляксандр сустракаўся зь літаратуразнаўцамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. 14 сакавіка ўвечары ў прысутнасьці соцень людзей Апостальскі Візытатар адправіў у Курапатах набажэнства за сотні тысячаў замучаных суайчыньнікаў. Ён таксама ўзяў удзел у Багушэвічаўскіх чытаньнях, наладжаных Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

Наступны дзень быў прысьвечаны сустрэчы зь біскупам Менскай Рымска-Каталіцкай дыяцэзыі Апостальскім Адміністратарам Тадэвушам Кандрусэвічам. Айца Аляксандра суправаджалі ксёндз Ян Матусэвіч і сябра Сойму і Рэлігійнай камісыі БНФ Міхаіл Дубянецкі.

16 сакавіка а. Аляксандр разам з яшчэ двума сьвятарамі адправіў сьвятую Літургію ва ўсходнім абрадзе, перад якою зьдзейсьніў таемства хросту дзесяці маладых менчукоў, а таксама прыняў да споведзі і пасьля прычасьціў да Сьвятых Дароў яшчэ звыш дзесяці чалавек. Пасьля гэтага знамянальнага набажэнства лік менскіх грэка-каталікоў значна павялічыўся.

Ад'язджаў айцец Аляксандр зь Менску ўвечары 16 сакавіка. Правесці яго прыйшло шмат беларускай моладзі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, прадстаўнікі навуковае і творчае інтэлігэнцыі, сьвятары, лідэры БНФ „Адраджэньне" на чале з народным дэпутатам БССР, старшынёю Сойму БНФ Зянонам Пазьняком. Апостальскі Візытатар перад цягніком і пасьля, ужо стоячы ў дзьвярох вагону, бласлаўляў са сьлязьмі на вачох праводзячых яго вернікаў і тых, на чые сэрцы ўпала ў гэтыя дні сьвятое зерне, пасеянае гэтым самаахвярным Боскім Слугою.

# СУСТРЭЧА а. АЛЯКСАНДРА З РЭДАКЦЫЯЙ «УНІІ»

**Больш за чатыры гадзіны цягнулася нашая сустрэча з айцом Аляксандрам. Сустрэча, як ён прызнаўся, самая нечаканая для яго з усіх, але і надзвычай шчасьлівая, бо ён пабачыў, няхай пакуль нешматлікія, парасткі адраджэньня Уніяцкае веры на Бацькаўшчыне. Асабліва пацешыла яго тое, што гэтай сьвятой справай усур'ёз занялася моладзь. Ён, самотны беларускі сьвятар на чужыне, марыў аб гэтым і штодня маліўся за душы далёкіх суайчыньнікаў. Надзвычайнае ўнутранае сьвятло і бясконцая дабрыня айца Аляксандра дапамаглі нам стварыць атмасфэру нязмушанасьці й даверу. Ён шмат распавядаў сам і ахвотна адказваў на ўсе пытаньні рэдакцыі „Уніі".**

**„УНІЯ": Беларуская Грэка-Каталіцкая царква існуе цяпер, на жаль, толькі на Захадзе. Як яна там паўставала?**

**а. АЛЯКСАНДР:** Пасьля другой сусьветнай вайны на Захадзе апынулася некалькі сьвятароў зь Беларусі. Першы беларускі асяродак пачаў фармавацца ў Рыме, дзе на той час знаходзіўся айцец Чэслаў Сіповіч, будучы беларускі біскуп і Апостальскі Візытатар для беларусаў. Чэслаў Сіповіч выехаў з Заходняй Беларусі ў 1938 годзе. Не па сваёй ахвоце – яго разам зь іншымі друйскімі Марыянамі выслалі тагачасныя польскія ўлады за ўдзел у адраджэнні Уніі на Беларусі. Ен быў тады яшчэ студэнтам духоўнай сэмінарыі і манахам у Друйскім каталіцкім кляштары. Друйскі кляштар Марыянаў залажыў у 1923 годзе бласлаўлёны біскуп Юры Матулевіч /Матулявічус/ – літовец, пакліканы для духоўнай працы сярод беларусаў, для апекі іхнымі духоўнымі патрэбамі. Гэта быў чалавек закону Божага, ён хацеў быць сапраўдным пастырам для ўсіх сваіх вернікаў. І менавіта беларусы сталі ягонай паствай, не палякі, не літоўцы, а гэты народ, які ён палюбіў за пакуты. Ён пабачыў, што беларусы найбольш запушчаныя ў рэлігійных адносінах, і пабачыў таксама адносіны да іх польскага духавенства, і вырашыў закласьці ў Друі манастыр для беларускіх Марыянаў.

І вось Чэслаў Сіповіч там вучыўся, рыхтаваўся да манаскага жыцьця, да сьвятарства. Там выкладаў і айцец Язэп Гэрмановіч, зь якім яны пасьля разам працавалі ў Лёндане. А потым польскія ўлады, са згоды ўладаў духоўных, аддалі загад усім друйскім Марыянам выехаць з Друі, пакінуць Беларусь. Чэслаў Сіповіч апынуўся ў Рыме, і ўжо там скончаў навукі і быў высьвячаны на сьвятара ў 1940 годзе.

Пасьля вайны ў Рым пачалі зьязджацца былыя жаўнеры гэнерала Андэрса, таксама людзі, што былі вывезеныя на працу ў Нямеччыну, альбо якія пакінулі Савецкі Саюз разам зь немцамі, баючыся рэпрэсыяў. Рым, у асноўным, быў для іх часовым прытулкам. Яны там стваралі свае лягеры, дзе чакалі выезду ў іншыя краіны – у Злучаныя Штаты, Аўстралію, Канаду і інш.

Айцец Сіповіч распачаў пошукі беларусаў, рабіў сьпісы тых, хто зьязджаў, і хто пакуль быў у Рыме. Зь ягонай актыўнай дапамогай пачала фармавацца беларуская эміграцыя. Утварылася аб'яднаньне беларускіх уцекачоў. Арганізавалася сваё жыцьцё, свая школа, свая прэса.

Паволі яны ўсе разьязджаліся. Але пакуль жылі тут, для духовай апекі беларусаў утварылася на пачатку 1950-х гадоў рэлігійная арганізацыя каталікоў усходняга абраду – першая на усім Заходнім сьвеце.

**„У": Ці шмат было беларусаў-уніятаў?**

**а. А.:** Мала. Беларуская эміграцыя ўвогуле ня была шматлікая.

Другі асяродак утварыўся ў Парыжы, куды паехаў айцец Леў Гарошка. Ён пачаў там выдаваць часапіс „Божым шляхам". Часапіс „Божым шляхам" выдаваўся з 1947 па 1978 год. Гэта вельмі добрае,

зьмястоўнае выданьне. Усе мы там працавалі. Першым рэдактарам у Парыжы быў а. Гарошка. Пасьля рэдакцыя часапіса перайшла ў Лёндан, дзе яго ўзначаліў а. Гэрмановіч, маючы ўжо 70 гадоў. Абодва яны – і Леў Гарошка, і Язэп Гэрмановіч – былі вельмі цікавымі і таленавітымі людзьмі. Шмат напісалі.

**„У": А хто выдаў малітаўнік „Божым шляхам"?**

**а. А.:** Айцец Гарошка. Надзвычай працавіты чалавек. Ён напісаў таксама жыцьцё сьвятой Ефрасіньні Полацкай.

Трэці асяродак быў у Чыкага. Там апынуліся вядомыя беларускія сьвятары, і сярод іх – Ян Хрызастом Тарасэвіч, які выехаў зь Беларусі зусім маладым хлопцам, яшчэ перад першай сусьветнай вайной. Ён шмат працаваў цяжка фізычна, сам ішоў да асьветы, да сьвятарства. Скончыў факультэт філясофіі і багаслоўства ў Лазанскім унівэрсытэце ў Швэйцарыі. Пасьля трапіў у Бернардынскі манастыр ля Чыкага. У гэтым манастыры былі манахі ўсходняга абраду. І а. Ян Хрызастом там прыняў усходні абрад.

І калі пасьля вайны ў Чыкага апынулася шмат беларусаў, яны сарганізавалі там сваю парафію – парафію Хрыста Збавіцеля. Пасьля да іх далучыўся будучы біскуп беларускі а. Уладзімір Тарасэвіч, пляменьнік а. Хрызастома.

Ён прыехаў туды ў 1937 годзе, скончыў там навукі і таксама стаўся бенедыктынцам. Пасьля вучыўся ва універсітэце ў Вашынгтоне, потым у Рыме – у Грэцкай Калегіі – шэсьць гадоў. І ў 1958 годзе вярнуўся назаўсёды ў Чыкага і пераняў гэтую парафію. Уладыка Чэслаў Сіповіч зрабіў яго настаяцелем парафіі.

Калі ўладыка Чэслаў памёр, а. Уладзімір Тарасэвіч стаў нашым біскупам і Апостальскім Візытатарам. Праўда, вельмі коратка. Ён доўга цяжка хварэў і 2 студзеня 1986 году памёр.

Гэта была страшная страта для нас. 21 год нашым біскупам быў Чэслаў Сіповіч, меньш за 3 гады быў а. Уладзімір. Цяпер мы засталіся бяз біскупа. Нас, сьвятароў, ужо вельмі і вельмі мала засталося.

Усе нашыя беларускія сьвятары былі на дзіва выдатнымі людзьмі, пра кожнага зь іх можна казаць бясконца. Гэта сапраўды было шчасьце– жыць сярод іх.

І вось яны мяне аднаго пакінулі. Пакінулі аднаго рабіць іхную агульную справу. Цяпер я адзін павінен езьдзіць па ўсім сьвеце. У Францыі нікога не засталося, у такой краіне як Аўстралія няма сьвятара. У Канаду мушу езьдзіць, у Амэрыку. Ёсьць нармальнае парафіяльнае жыцьцё ў Чыкага, там малады сьвятар амэрыканец. Але зь Нью-Ёрку да Чыкага трэба тры гадзіны ляцець самалётам. У Нью-Ёрку ёсьць беларусы ўсходняга абраду, сьвядомыя, а сьвятара няма.

Была парафія ў Кліўлендзе. Цяпер там група прыхажан – каля 50 семьяў. Некалі імі апекаваўся а. Гарошка. Пасьля яго сьмерці ня стала каму заступіць. Значыць, я таксама павінен быў узяць іх. Цяпер і туды прыязджаю.

Цяжка гэта ўсё аднаму чалавеку.

Бачыце, бяда якая: няма сьвятарскіх пакліканьняў. Можа таму, што нас мала і мы расьцярушаны па сьвеце? Я кожны дзень малюся аб сьвятарскім пакліканьні.

Пакліканьне – гэта ласка Божая, благаславеньне ісьці рабіць духоўную працу. У нас няма сьвятароў яшчэ і таму, што няма нармальнага парафіяльнага жыцця, няма сталага кантакту зь людзьмі, з моладзьдзю, зь семьямі. Калі ёсьць у сямьі хрысьціянскае жыцьцё, самі бацькі мараць, каб сын стаў сьвятаром. У нас жа гэтага няма. Патрэбны сталы кантакт, каб была магчымасьць падтрымаць, калі паявіцца пакліканьне, даць яму ўзмоцніцца, каб яно ня згасла. А інакш яно затухае. Асабліва пры цяперашніх абставінах. Са мной ў Лёндане ёсьць адзін сьвятар, айцец Кастусь, якому больш за 70 гадоў, – і больш нікога. А я ўвесь час у дарогах. Які ж тут кантакт ?

**„У": Ці шмат цяпер ёсьць у сьвеце уніятаў-беларусаў?**

**а. А.** Цяжка сказаць. Я стараюся пабываць усюды, дзе ёсьць беларусы: у Францыі, у Амэрыцы, у Аўстраліі, Канадзе. Калі я прыязджаю, на сустрэчы прыходзіць заўсёды шмат людзей. Ідуць на службу, маліцца, і да споведзі, і да сьвятога прычасьця. Але часта зьвяртаюцца і праваслаўныя, таксама ідуць да споведзі і да прычасьця. І каталікі прыходзяць. Апошні раз, калі я быў у Кліўлендзе, вельмі шмат народу прыйшло – у царкве ня было месца.

Усіх падлічыць вельмі цяжка па ўсім сьвеце. Мы, беларусы, увогуле расьцярушаны. Магчыма, я ня ўсіх ведаю. Часам бывае, нечакана наткнешся на беларусаў-уніятаў. Аднойчы я прыехаў на сустрэчу, раптам бачу, бяжыць да мяне чалавек. Такі маленькі, з бародкай. Крычыць: „Айцец, вы уніят?" „Так, – кажу, – уніят". „І я уніят. І мама мая уніятка. Калі будзе служба Божая?" Вось чакаў жа. Вельмі сімпатычны аказаўся, і мама яго сімпатычная.

Мала беларусаў на Захадзе, яшчэ меней – сьвядомых. І нам трэба мець кантакты, рабіць разам агульную справу.

Вось што цікава. У Канадзе ёсьць месца пілігрымкі, на возеры Гюрон, каля гарадку Мідлянд, дзе пахаваныя Канадыйскія мучанікі. Гэта былі айцы езуіты, французы, місыянеры, якія несьлі Хрысьціянства да індзейцаў. Яны былі забітыя. Цяпер яны ўжо лічацца сьвятымі. Сярод канадыйскіх сьвятых ёсьць і першая індзейская сьвятая – дзяўчына-хрысьціянка, якая загінула за веру. І яна таксама пахаваная на гэтым возеры. Там вельмі прыгожа – і возера, і лес вакол. Гэтае месца сьвятое для Канады. Там усе канадыйцы розных этнічных групаў паставілі свае нацыянальныя крыжы, усе ў розны час.

І вось у 1988 годзе і мы, беларусы, паставілі там свой крыж – памятны крыж у гонар 1000-годзьдзя хрышчэньня Беларусі. Гэта было ў верасьні, была вялікая ўрачыстасьць, вельмі багата людзей прыйшло. У прошлым годзе першы раз пайшлі ў пілігрымку. І пастанавілі рабіць туды пілігрымку штогод у чэрвені.

**„У": У кожную мясьціну Вы рэдка трапляеце. А дзе яны хрысьцяць дзяцей, што там нараджаюцца?**

**а. А.:** У Чыкага, напрыклад, гэта лёгка, там ёсьць свая царква і сьвятар. А іншым цяжка. Калі я прыязджаю, я хрышчу. Але ня трэба чакаць, і як ёсьць іншы сьвятар усходняга абраду – украінец, славак – ісьці да яго. А як няма, ісьці да лацінскага сьвятара хрысьціць. З гэтым жартаваць нельга. Нельга доўга чакаць, выбіраць. Хрост вельмі важны для вечнае душы, гэта вельмі сур'ёзна.

Малецеся аб сьвятарскім пакліканьні. Вельмі патрэбны сьвятары,і неабходна, каб былі пакліканы зь Беларусі. Зараз ёсьць магчымасьць для навукі, ёсьць сродкі. Можна вучыцца ў Рыме – у Грэцкай Калегіі, ці ў нас, у Лёндане. Гэта так цяпер патрэбна.

**„У": Ці ёсьць у Лёндане, у Беларускай бібліятэцы імя Скарыны уніяцкія выданьні?**

**а. А.:** Ёсьць, праўда, няшмат. Найперш, гэта „Служэбнік" – наўзор рымскага імшалу, дзе ёсьць і літургія. Ён вельмі карысны практычна, бо ў адной кнізе сабраныя і тэкст імшы, і чытаньні на кожны дзень. Таксама маем рукапіс Архіерэйскай Літургіі – з паловы ХУІІ ст. з паралельным перакладам на лацінскую мову.

**„У": Сам рукапіс напісаны па-беларуску?**

**а. А.:** Не, па-царкоўнаславянску. Так бы мовіць, царкоўнаславяншчына ў беларускай рэдакцыі. Напісаў гэту кнігу першы Віленскі вікарны біскуп для Беларусі Тодар Скуміновіч. Пасьля, пад час сваёй паездкі ў Рым, ён ахвяраваў рукапіс Літургіі беларускай Базыльлянскай царкве ў Рыме – царкве сьв. сьв. Сяргея і Вакха. І ўжо нядаўна, пасьля вайны, мы набылі гэтую кнігу для Бібліятэкі. Гэта вельмі каштоўны і рэдкі уніяцкі рукапіс.

Увогуле кнігі для Бібліятэкі зьбіраліся мэтанакіравана: толькі тое, што датычыцца Беларусі.

**„У": Калі уніяцкія тэксты пачалі пісацца па-беларуску?**

**а. А.:** Хутчэй ня тэксты, а пабожныя песьні, што гучалі пад час літургіі. Яны сьпяваліся па-беларуску. Напрыклад, гімн „О мой Божа, веру Табе". Таксама па-беларуску выдаваліся катэхізмы. Напісаны па-беларуску падручнік „Сабраньне прыпадкаў", які мы таксама маем у Бібліятэцы. Беларускімі былі трэбнікі з рытуаламі хросту, споведзі, жанімства.

Народная мова ўваходзіла ў рэлігійнае жыцьцё паволі, не адразу. Але, безумоўна, ужо ў першай палове ХУІІ ст. пачаўся гэты працэс. Ён, вядома, працягваўся б, каб ня быў гвалтоўна перапынены. Цікава, што праваслаўныя выдавалі ў часы наймацнейшай палянізацыі буквары для дзяцей праваслаўных польскаю моваю. Ёсьць праваслаўны малітаўнік, тэкст літургіі на польскай мове. Гэта паказвае, як далёка тады зайшла палянізацыя нават сярод праваслаўных.

**„У": Чым адрозьніваюцца уніяцкія абразы ад лацінскіх ці візантыйскіх?**

**а. А.:** У нас былі вельмі моцныя мясцовыя традыцыі іконапісу. Справа ня ў тым, што яны уніяцкія альбо праваслаўныя – яны беларускія, яны адрозніваюцца і ад заходніх, і ад усходніх. Вось вазьміце альбом „Беларускі жывапіс стагодзьдзяў" – там ёсьць шмат уніяцкіх іконаў.

**„У": Яны уніяцкія толькі таму, што пісаліся уніятамі?**

**а. А.:** Так. Заўважце адно: у іх адразу адчуваецца беларускі характар, калі маляваў беларускі мастак. Моцна адрозьніваецца ад Наўгародзкай ці Маскоўскай школы. Іншыя колеры, іншыя твары – выразы лагодныя, чалавечыя. Гэта даўная мясцовая традыцыя, якая пачалася ад праваслаўных. Уніяты яе прадаўжалі. Заходнія ўплывы ёсьць хіба ў матывах, у сюжэтах іконаў. Гэта ўсё ня столькі уніяцкі, колькі беларускі жывапіс.

**„У": На жаль, у нас засталося вельмі мала старых абразоў. Можа, яны былі панішчаны разам з уніяцкімкі кнігамі, у часы біскупа Сямашкі?**

**а. А.:** Але ва ўспамінах самога Сямашкі пра іконы няма . Ён піша толькі пра зьнішчэньне кніжак, пра царкоўныя чашы, манстранцыі, абклады. Ён іх забіраў з уніяцкіх цэркваў і плавіў, хаця яны нічым не адрозьніваліся ад праваслаўных. З-за нянавісьці, за тое, што яны былі ва уніяцкіх храмах.

**„У": Праваслаўная царква прызнае шасьціканцовы і васьміканцовы крыж, у лацінскай традыцыі – чатырохканцовы. Які найбольш прыймальны для ўніятаў?**

**а. А.:** Зразумейце: ёсьць крыж Хрыстовы. Адзін. А ў кожным народзе ўзьнікаюць свае варыянты. Мы назвалі сваім крыжам шасцікутны крыж сьвятой Ефрасіньні. Але падобны крыж маюць славакі, у Лятарынгіі таксама падобны.

**„У": Наш шасцікутны крыж, магчыма, паходзіць яшчэ і з даўнай традыцыі: прыгадаем крыж Ярылы, крыж на Пагоні.**

**а. А.:** Так, верагодна. Але ёсьць асноўны крыж – Хрыстовы. У грэкаў чатырохкутны крыж, хаця яны праваслаўныя. Справа ня ў розьніцы рэлігіі, веравызнаньня, а ў мясцовых традыцыях.

**„У": Якім календаром карыстаецца Уніяцкая царква?**

**а. А.:** Каляндар – гэта рэч другарадная. Мне часта трэба служыць у Лёндане і ў Парыжы. У Лёндане прытрымліваюцца новага календару, а ў Парыжы – старога. Так што Каляды я служу ў Лёндане 25 сьнежня, а пасьля еду ў Парыж на 7 студзеня. Трэба прыстасоўвацца да абставінаў, да людзей. Самае важнае для мяне – несьці любоў і Слова Божае, даць людзям пацяшэньне і разуменьне тайнаў сьвятых. Гэта ёсьць найважнейшае. Традыцыі, безумоўна, трэба захоўваць, але каб яны не заміналі больш істотнаму.

**„У": Якія адносіны склаліся паміж Беларускай Каталіцкай Царквой усходняга абраду і Беларускай Аўтакефальнай Царквой?**

**а. А.:** Я стараюся захоўваць як найбольш цёплыя, сяброўскія адносіны, дзе магчыма, дапамагаць. Многія праваслаўныя таксама зразумелі гэта, і сярод праваслаўных ёсьць мае добрыя прыяцелі. Праўда, бяда з нашымі праваслаўнымі: яны падзеленыя на групкі, не заўсёды добра жывуць між сабой. Я ж хачу з усімі захоўваць прыязныя адносіны. Вельмі добры мой прыяцель уладыка епіскап Мікалай.




**„У": У праваслаўных беларускіх цэрквах служба ідзе па-беларуску?**

**а. А.:** Уладыка Мікалай ужо амаль увесь час служыць па-беларуску. Іншыя сьвятары, асабліва старыя, ня могуць. Сьпяваюць па-царкоўнаславянску, беларускіх сьпеваў у праваслаўных зусім няма.

А стасункі між намі добрыя. За гэта трэба падзячыць і а. Гарошку, і біскупу Сіповічу. Яны пачалі такія адносіны, такі падыход: барані Бог, ніякіх сварак! Заўсёды ўсім старацца аднолькава дапамагаць. Бо яны ж нашы браты, такія ж беларусы. Тое, што нас дзеліць, – гэта людзкая злосьць, і ня будзем гэта працягваць. Ты сваім існаваньнем абавязаны вышэйшай Праўдзе, а таму не накідай сілы, не сварыся, не абражай.

**„У": А якія адносіны Беларускай Уніяцкай Царквы з Украінскай ?**

**а. А.:** Украінцы на Захадзе маюць вельмі моцную царкву. Яны ахвотна дапамагалі б нам, але, як і мы, вельмі занятыя. Калі ёсьць нагода, заўсёды сустракаемся. Ня раз сустракаўся зь іхнымі біскупамі. Дапамагаем адно аднаму, чым толькі можна. Скажам, у нас няма дзе ў Амэрыцы сваёй беларускай царквы – дык украінскія уніяты заўсёды прапаноўваюць, калі трэба, рабіць імшу ў сваёй, украінскай.

**„У": Чаму так атрымалася: раней была адна Уніяцкая Грэка-Каталіцкая царква для беларусаў і украінцаў, а цяпер яны існуюць асобна?**

**а. А.:** Час ідзе... На Беларусі Унія была зьнішчана, на Украіне засталася, бо Украіна была ў іншай дзяржаве, з большай рэлігійнай талеранцыяй. Уніяцкая царква на Украіне набыла ўкраінскі характар, як і на Беларусі – беларускі, кожная пайшла сваім шляхам. І нашыя патрэбы цяпер ня ёсьць такія, як іхныя.

**„У": Ці ёсьць на Захадзе беларускія Базыльлянскія кляштары?**

**а. А.:** Не, беларускіх няма. Украінскія ёсьць – у Злучаных Штатах, Канадзе. Апроч таго, сама структура царквы, у тым ліку і кляштары, захаваліся і ў савецкай Украіне.

У нас нічога такога няма. Вы цяпер узялі на сябе цяжкі крыж – справу адраджэньня Уніяцкае царквы на Беларусі зь нічога. Амаль на голым месцы. Але рабіць трэба. Яшчэ ўладыка Чэслаў казаў: „Калі добрая справа, тады сам Бог дапаможа, а калі дрэнная – сама заглухне, што б ні рабілі".

Безумоўна, будуць у вас цяжкасьці, і вельмі сур'ёзныя. Але толькі каб не зьняверыцца ад тых цяжкасьцяў. Памятайце: хрысьціянін ня можа ня быць аптымістам, бо ён ведае, што Бог у канцы ўсё адно прывядзе да лепшага. Даражэнькія мае, вялікай вам сілы ў вашай працы, і хай дапамагае вам Бог!

# «МЫ ПАВІННЫ ЗЬМЯНІЦЬ СВАЕ АДНОСІНЫ ДА УНІІ...»

**З прамовы доктара Адама Мальдзіса на Рэспубліканскай канфэрэнцыі Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны „Закон аб мовах у Беларускай ССР: праблемы і шляхі ажыцьцяўленьня" 11 мая 1990 году**

Сваё выступленьне я хачу прысьвяціць пытаньню „мова і рэлігія". Гэтае пытаньне вельмі істотнае цяпер, калі мы стаім, можа быць, ля пачатку, можа быць, ля сярэдзіны свайго чарговага нацыянальнага адраджэньня, імкнемся ўсьвядоміць, хто мы і якое наша нацыянальнае аблічча. І тут, відаць, посьпех будзе залежыць, як і ва ўсе часы, ад таго, як павядуць сябе кіруючыя вярхі, якой будзе школа, якой будзе сямья і якой будзе наша царква.

Мы часта з зайздрасьцю глядзім на суседзяў – як у іх хутка і дружна ішло нацыянальнае адраджэньне. І мы бачым, што гэта адбывалася галоўным чынам таму, што ў іх на роднай мове гаварылі кіраўнікі, гаварыла маці да дзіцяці першыя словы, гаварылі ў школе, гаварылі ў касьцёле або ў царкве.

Як жа выглядаюць гэтыя справы ў нас, калі глядзець гістарычна і калі засяродзіцца толькі на справах рэлігійных?

Бадай што першым прабачліва зразумеў усю важнасьць стасункаў паміж народнай мовай і рэлігіяй Францішак Скарына. Ён як чалавек, які бачыў далёка наперад, прадбачыў і тыя рэлігійныя сваркі, што пачаліся ў другой палове стагодзьдзя і што вельмі істотна запаволілі працэс фарміраваньня нашай нацыянальнай сьвядомасьці. Імкнучыся даць народу слова Боскае на зразумелай яму мове, Францішак Скарына стаяў і стаіць ля вытокаў нашай нацыянальнай сьвядомасьці і даваў і дае добры прыклад наступным пакаленьням. Гэты прыклад перанялі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, няхай на хвалі Рэфармацыі. Вядома, справу Скарыны працягнулі і уніяты.

Мы сёньня павінны зьмяніць свае адносіны да Уніі, якія ў нас выпрацаваліся ў часы абэцэдаршчыны, і яшчэ раней, пры сталінскіх часах, – калі бачылі ў Уніі толькі адмоўнае, толькі навязанае паланізатарамі з мэтай запалоніць беларускі народ, учыніць нацыянальны і сацыяльны прымус і г. д. Раней Унія была ў нас толькі са знакам „мінус". Але калі ўзяць усе факты ў сукупнасьці, то мы бачым, што справа значна складаней і што ў Уніі было вельмі і вельмі многа „плюсаў". І адзін зь гэта спроба стварыць рэлігію, якая б прынесла мір гэтаму народу і якая была б нацыянальнай рэлігіяй.

У той час па канфэсійных пытаньнях ішла жорсткая барацьба паміж каталікамі і праваслаўнымі з цэнтрам у Масковіі. І гэта служыла прычынай шматлікіх войнаў. Стварэньне Уніі садзейнічала ўстанаўленьню больш мірных адносін паміж Усходам і Захадам. Акрамя таго, трэба ўлічваць, што за Унію выступалі найперш праваслаўныя духоўныя.

У Уніі было два пачаткі. Адзін пачатак – гэта падпарадкаваньне Рыму, і другі пачатак – гэта экуменічны пачатак, які сёньня вельмі істотны, таму што садзейнічае збліжэньню і ўзаемаразуменьню людзей. Потым, калі уніяцтва не спраўдзіла тых надзей, якія ўсклала каталіцкае духавенства на Унію, калі яна стала па-сапраўднаму народнай рэлігіяй /таму што толькі беларускія сялянскія „нізы" засталіся пры Уніі – „вярхі" пераважна перайшлі ў каталіцкую веру/, – тады яна ў значнай ступені стала беларускай нацыянальнай рэлігіяй: нідзе, як ва уніяцкай царкве, так шырока не распаўсюджвалася беларуская мова.

Праваслаўе ў цэлым, нават на пачатку XX стагодзьдзя, заставалася верным царкоўнаславянскай мове. І рэдкія выключэньні накшталт Івана Насовіча – адзінага, бадай, сьвятара ў XIX стагодзьдзі, які быў зацікаўлены ў разьвіцьці беларуска мовы – гэтыя рэдкія выключэньні толькі пацьвярджаюць агульнае правіла.

Каталіцкай царквой рабіліся спробы зьвярнуцца да беларускай мовы і ў *XVII*, і ў *XVIII*, і у XIX стагодзьдзях, дастаткова прыгадаць школьныя інтэрмедыі ў езуіцкіх і піярскіх калегіях, кантычкі, ці Катэхізіс 1835 году, ці Лемантар 1861 году. Вельмі многа зрабілі каталіцкія ксяндзы для адраджэньня беларускай сьвядомасьці на пачатку XX стагодзьдзя. Прыгадаем імя ксяндза Астрамовіча, блізкага сябра нашага Янкі Купалы: ксёндз Астрамовіч перакладаў Біблію на беларускую мову. Прыгадаем імёны Казіміра Сваяка, Андрэя Зязюлі, Язэпа Германовіча, які пісаў пад псеўданімам Вінцук Адважны, Адама Станкевіча, Янкі Быліны і многіх іншых сьвятароў, якія, дарэчы, у Рэчы Паспалітай падвяргаліся прасьледаваньню за тое, што яны ўводзілі беларускую мову ў сьвятыні /дастаткова прыгадаць, як прасьледаваліся за гэта ксяндзы-марыяне з Друі або тыя ж Адам Станкевіч ці Казімір Сваяк/.

А цяпер узьнікае пытаньне, як жа ўрокі Скарыны, ягонае імкненьне да того, каб усе веравызнаньні былі роўныя /гэта ўнікальны выпадак: Скарына, будучы каталікам, хацеў даць слова Божае на роднай мове праваслаўнаму люду паспалітаму, стаяў над канфэсійнай барацьбой і гэтым даваў добры прыклад/, – як жа гэтыя ўрокі Скарыны засвойваюцца сёньня?

Трэба прызнаць, што гэтыя традыцыі выкарыстоўваюцца і разьвіваюцца дрэнна. Калі з боку Праваслаўнай царквы ёсьць першыя спробы павярнуцца да беларускай мовы – пра гэта сьведчыць і новы пераклад Сьвяшчэннага Пісаньня, які робіцца камісіяй пры Мітрапаліце, і тое, што ў Жыровіцкай сэмінарыі ўжо ёсьць беларускі клас, і тое, што „Весьнік беларускага экзархату" друкаваў і зьбіраецца больш шырока друкаваць матэрыялы на беларускай мове, – то з каталіцкага боку такога разуменьня вельмі і вельмі не стае.

Сапраўды, стварылася дзіўная сытуацыя: паводле перапісу насельніцтва на Беларусі пражывае каля 500 тысячаў палякаў. А што датычыцца каталікаў, то па асьцярожных падліках заходніх сьпецыялістаў, і па падліках Ватыкана, – то іх на тэрыторыі Беларусі два з паловай мільёны. Узьнікае заканамернае пытаньне: хто ж гэтыя два з паловай мільёны, таксама палякі? У польскіх крыніцах сьцьвярджаецца: так, кожны каталік на тэрыторыі Беларусі – гэта паляк. Усё гэта сьведчыць пра тое, што ёсьць пэўныя тэндэнцыі лічыць усіх беларусаў-каталікаў палякамі і тым самым сьцьвердзіць гістарычныя правы Польшчы на тэрыторыю Беларусі.

Нядаўна, пад час знаходжаньня ў Рыме, на навуковай канфэрэнцыі „Беларусь, Літва, Польшча і Украіна", нам, беларусам, пашчасьціла атрымаць аўдыенцыю ў папы Рымскага Яна Паўла ІІ. І там паўсталі ўсе гэтыя балючыя пытаньні: што няма ў нас беларускіх сьвятароў, няма патронаў, што дрэнна дзеецца ў беларускай Каталіцкай царкве. І нам было вельмі прыемна, што мы знайшлі ў папы Рымскага разуменьне нашых беларускіх спраў, разуменьне і прыхільнасьць. Ян Павел даў нам зразумець, што ён у курсе нашых нацыянальных клопатаў, што ён спачувае нам і што зь цягам часу ўсё павінна зьмяніцца да лепшага

У кожным выпадку, пытаньне "Мова і рэлігія" вельмі важнае для нашага нацыянальнага быцьця, для фарміраваньня нашай нацыянальнай тоеснасьці. Калі царква і касьцёл загавораць на беларускай мове – я ўжо не кажу пра кіруючыя органы, – тады мы зможам нарэшце сказаць, што беларускае нацыянальнае адраджэньне адбылося і што яму нішто не пагражае.



# СЯРЖУК МАМЧЫЦ

# АПАЛЁГІЯ ВУНІІ

Униатство, общее назв. христианских церк. организаций, возникших в рез. соглашений (уний) об объединении католицизма с др. христианскими вероисповеданиями. ... Насаждение У. несло дополнит. гнёт, угрозу нац. независимости, культ. самобытности, гос. самостоятельности...

После долгой и упорной борьбы Ватикан вместе с польск. феодалами навязали Брестскую унию 1596г. ... Новая церковь была одним из средств порабощения Украины и Белоруссии польск. феодалами, надеявшимися с её помощью искоренить духовную культуру белорусов и украинцев, оторвать их от рус. народа и закрепить над ними своё господство. Борьбу с унией в Белоруси и на Украине вели т. наз. братства...

В. А. Молоков.

(Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. Т. 1. С.706)

Ці ўсё гэтак і было, як падае кароткая энцыкляпэдыя Беларусі? Што гэта за пачвара такая – Вунія – якая хацела адарваць беларусаў ад русскага народу ды не патрапіла? Як яна выкараняла духовую культуру беларусаў і які дадатковы прыгнёт нашаму народу несла з сабой? Вось дзеля пошуку адказу на гэтыя пытаньні акінем троху вокам нашую мінуласьць.

На працягу тысячы гадоў нашае гісторыі ў Беларусі суіснавалі чатыры хрысьціянскія плыні: Праваслаўе, Каталіцтва, Пратэстанцтва і Вуніяцтва. Пералічаюцца яны тут адпаведна часу ўвядзеньня. Але, зрэшты, ўсё адносна, бо існуюць зьвесткі, што ў Полацку перш зьявіліся лацінскія манахі, а Польшча, прыкладам, напачатку была хрышчана ва ўсходні абрад Кірылам і Мяфодам. Ды тое было яшчэ да канчатковага падзелу цэркваў у палове Х1 стагодзьдзя (1054 г.)

Сярод чатырох названых хрысьціянскіх плыняў толькі Пратэстанцтва (Кальвінізм, Лютэранства, Арыянства і г.д.), прымалася беларусамі добраахвотна. Пачатак ягонага распаўсюджваньня прыпадае на 30-я гг. ХУ1 стагодзьдзя. Найбольш прыхільнікаў гэтыя канфэсыі мелі сярод беларускай магнатэрыі, шляхты і гандлёва-рамесьніцкага саслоўя, якія ў часе Рэфармацыі, прыймалі Пратэстанцтва з пэўнымі эканамічнымі і палітычнымі мэтамі. У Праваслаўе і Каталіцтва ў Х-Х1У стст. прымусам хрысцілі беларускае паганскае насельніцтва, якое мела свае храмы (капішчы), свой пантэон багоў (Пярун, Вялес, Ярыла, Дажджбог, Стрыбог, Лада і інш.), сваіх сьвятароў (волхваў) і добраахвотна не жадала адмаўляцца ад веры продкаў. У Вуніяцтва частка праваслаўных пераводзілася таксама прымусова. Народ ніколі ня быў надта ахвочы да пераменаў. Тут мы закранаем гэткую ўласьцівасьць народу, як кансэрватызм, здаровы народны кансэрватызм, які, як тое ні парадаксальна, трэба прызнаць якасьцю станоўчай, інакш, прыкладам, сёньня, на сыходзе ХХ стагодзьдзя, мы ня мелі б жывых носьбітаў беларускае мовы.

Дык вось на тэй падставе, што ў Х стагодзьдзі Хрысьціянства ўводзілася ў Кіеўскай Русі і Полацкай дзяржаве прымусам, нікому сёньня не прыходзіць у галаву адмаўляць прагрэсыўнасьць ды гістарычную аб'ектыўнасьць гэтае падзеі. Чаму ж, нягледзячы на відавочную лягічную паралель, гэта робіцца ў дачыненьні да Вуніяцтва – нашай нацыянальнай рэлігіі? Нашто і каму гэта патрэбна?

Зь гісторыка-палітычнага пункту гледжаньня Беларусь ёсьць сумным пацьверджаньнем тэорыі геаграфічнага дэтэрмінізму. А менавіта, геаграфічнае становішча Беларусі перадвызначыла (дэтэрмінавала) ейны гістарычны лёс, надзвычайна пакутны і трагічны. Трагічнасьць гэтая абумоўлена разьмяшчэньнем на ўсход і захад ад Беларусі больш моцных у палітычным і ваенным дачыненьні дзяржаваў – Масквы і Польшчы. Агрэсыўнасьць Масквы, крыжацкая навала, крымска-татарскія набегі штурхнулі Беларусь да саюзу з Польшчай, што ня лепшым чынам адбілася на нашым лёсе. Надалей Беларусь сталася арэнаю для высьвятленьня адносінаў паміж больш моцнымі суседзямі, далёкімі і блізкімі. Усе, хто ішоў на Маскву, ішлі праз Беларусь. І Масква хадзіла цераз нас, час ад часу імкнучыся нас зваяваць, што ўрэшце і патрапіла зрабіць напрыканцы ХУ111 стагодзьдзя. Спачатку забралі нашыя абшары, а зь цягам часу, зьліквідаваўшы Вунію, забралі паступова і сам народ.

Кожная вайсковая навала – гэта рабунак, пажары, голад, эпідэміі, зьнішчэньне матар'яльнае культуры, архітэктуры, твораў мастацтва – усяго, што складае падмурак нацыянальнае сьвядомасьці. Але ня толькі. Гэта яшчэ і зьніштажэньне генафонду нацыі, аслабленьне ейнага духу, як імунітэту да асыміляцыі.

Нас засталося 45% у вайне паловы ХУ11 стагодзьдзя. Гвалт над нашым народам у ХУ11 ст. – зьява, якой няма аналёгіяў у сусветнай гісторыі. Больш паловы народу зьнішчана ... Спустошаны, панылы, сплываючы крывёю Край.[x] Траціна беларусаў зьнікла ў бойцы паміж Пятром І і Карлам ХІІ на нашых абшарах падчас Паўночнае вайны (1700 – 1721 гг.); чвэрць – пры высьвятленьні адносінаў паміж французскім ды маскоўскім імпэратарамі на пачатку ХІХ стагодзьдзя і г.д. А ўсё гэта страты на адно матар'яльныя. Колькі соцень (ці тысяч?) цэркваў разрабавана, колькі званоў, абразоў, іншых твораў сакральнага ды сьвецкага мастацтва вывезена з разрабаваных сьвятынаў і замкаў? Усе гэта страты духовыя. І народ наш, цягам стагодзьдзяў, рабіўся ўсё больш падуладным розным чужынскім уплывам. Вось жахлівы лёс памежжа!

Гэтакі "памежны", дэтэрмінаваны геаграфічна лёс Беларусі здаўна ўсьведамляўся нашаю грамадзкаю і мастацкаю думкай. Яшчэ ў кастрычніку 1919 году Янка Купала, аналізуючы тагачасную малую палітычную актыўнасьць беларусаў, сярод прычынаў называў "гістарычныя і г е а г р а ф і ч н ы я варункі нашай бацькаўшчыны". Зьміцер Жылуновіч у "Дзяньніцы" пісаў, што "пісьменства, навука, музыка і штукарства, як польскія гэтак і рускія, багаціліся за шчот беларусаў ... Лежучы на дарозе між вялікімі народамі ўсходу і захаду, беларускі абшар служыў арэнай, на якой адбыліся і адбываюцца самыя вялікія і крывавыя войны". Можна згадаць і радкі зь верша Рыгора Барадуліна "Дзятлінка":

Таксама і Беларусь мая
На ўзьмежках цьвіла і выстаяла.

Геаграфічна памежнае становішча Беларусі перадвызначыла ня толькі ейны гісторыка-палітычны шлях, але і ейнае духовае аблічча, тып і найгалоўнейшыя рысы ейнае духовае культуры (як, зрэшты, і матар'яльнае) Беларусь геаграфічна ёсьць на сутыку дзьвюх магутных культурных традыцыяў сьвету – культуры Захаду і культуры Усходу. На Беларусі жа скрыжаваліся і дзьве галоўныя хрысьціянскія плыні – усходняя, праваслаўная, і заходняя, каталіцкая, у сынтэзе якіх і палягае беларуская

духовая індывідуальнасьць. Вядома, ня трэба разумець апошнюю тэзу гэтак, што вось беларуская культура ёсьць мэханічным спалучэньнем заходніх и ўсходніх традыцыяў. Сынтэз той адбываўся не гарызантальна-мэханічна, але вэртыкальна-арганічна, у часе. Не забывайма, што перш Беларусь была амаль цалкам праваслаўнай, Полацак меў простыя, без пасярэдніцтва Кіева сувязі з Бізантыяй (яшчэ адно, побач з уласнай княскай дынастыяй, пацьверджаньне самастойнасьці й незалежнасьці Полацкае дзяржавы). Магутнае дрэва грэцкае культуры было галоўным эстэтычным ды ідэялягічным арыенцірам для нашых продкаў у часы Полацкае дзяржавы.

Але ў выніку розных гістарычных абставінаў – гібелі Бізантыі (1453 г.), узмацненьня агрэсыўнасьці Маскоўскае дзяржавы ды ейных прэтэнцыяў на ролю трэцяга Рыму – узмацніліся сувязі Беларусі з Захадам, з заходняю культурай. Паступова заходнія сьветапоглядныя каштоўнасьці прыжываліся й на беларускай глебе. Беларуская пісьменнасьць і мастацтва стаюць на шлях аб'яднаньня заходніх і ўсходніх традыцыяў. Працэс гэты ішоў найперш у сакральным мастацтве ды пісьменнасьці, бо рэлігія была тады асноваю кожнае нацыянальнае духовасьці. Як вынік гэтага нарастала адметнасьць



*Багаяўленская царква кляштара Базыльянаў у Жыровічах. Вуніяцкае Барока. Яскравы прыклад беларускага вуніяцкага сынтэзу заходніх і ўсходніх архітэктурных традыцыяў.*



*Дабравешчаньне. Абраз сьвяточнага раду Шарашоўскага іканастасу. 2 пал. XУІІІ ст.Гэты твор ілюструе найвышэйшую ступень разьвіцьця беларускага вуніяцкага мастацтва – пэрыяд уласнае канонатворчасьці. Сюжэт абраза ўзаемавыключальны для каталіцкіх і праваслаўных канонаў. У першых архангел бласлаўляе сьв. Марыю лілеяй, у другіх – рукою. А тут – і тым, і другім.*

беларускага Праваслаўя ў параўнаньні з Праваслаўем маскоўскага ўзору: у нашым ўсё больш высьпявалі ды выяўляліся, часам не ўсьвядомленыя, в у н і я ц к і я (у сэнсе сынтэзаваныя, заходне-усходнія) тэндэнцыі. Але былі й усьвядомленыя. Праваслаўны біскуп Кірыла Тураўскі, славуты "залатавуст", адно з сваіх казаньняў-"словаў" прысьвяціў Папу Рымскаму (!). Варта згадаць і Флярэнцкую вунію 1439 году, пасьля якое Маскоўскі мітрапаліт Ісідар, які яе падпісаў, быў пасаджаны вялікім Маскоўскім князем у вастрог, а на Беларусі да гэтае падзеі паставіліся цярпіма. Прыгадайце храмы ў Супрасьлі, Сынковічах альбо ў Мураванцы (праваслаўная готыка!), прыгадайце архітэктуру Магілеўскай Мікалаеўскай і Менскай Петрапаўлаўскай цэркваў (рэнэсанс, барока) – і вы зразумееце розьніцу паміж нашым, "памежным", і маскоўскім Праваслаўем. Зразумееце й кірунак, у якім яно ішло і куды прыйшло. А прыйшло ж да Вуніі.

Такім чынам, мы, беларусы, ад самага свайго нараджэньня як народа – "вуніяты" ("памяжоўцы"). Вуніяцтва, калі яго разумець як творчае спалучэньне заходніх і ўсходніх культурных традыцыяў, і ёсьць сутнасьцю такой нацыянальна-гістарычнай зьявы як Беларусь. Сёньня агульнавядома, што фармаваньне беларускага народу як этнаадзінкі ў яе сучасным выглядзе завяршылася да XУІ стагодзьдзя, і завяршылася яно якраз стварэньнем нацыянальнае царквы.

Беларусь гістарычна была ўключаная ў эўрапэйскі палітычны, мастацкі ды культурны працэс: фэномен Адраджэньня, мастацкія стылі Раманіка, Готыка, Рэнесанс, Маньерызм, Барока, Ракако і г.д. – усё гэта ёсьць беларускай рэчаіснасьцю. У той час як Масква, дзе панавала артадаксальнае Праваслаўе, падключылася да кантактаў з Эўропай і ейным мастацтвам толькі з эпохі Барока ў XУІІ стагодзьдзі, дый тое цераз беларуска-украінскае пасярэдніцтва, якое сталася магчымым у выніку маскоўскае экспансыі на нашыя землі. Эўрапэйскія формы мелі беларускія дзяржаўныя ды грамадзкія інстытуты, а таксама права: Статуты, канцлерства, трыбуналы, гарадзкое самакіраваньне (магдэбургія) з магістратамі, рамесьніцкія цэхі і г.д. Нават народны інструмэнтарый меў пераважна эўрапэйскі характар, а тым больш высокае (артыстычнае) мастацтва.

Тое самае і ў зьнешняй палітыцы. Згадаем абраньне Вітаўта Вялікага чэскім каралём, інтэнсыўныя кантакты гусітаў зь Беларусьсю, візыт Гераніма Праскага ў Вітабск. У другой палове XУ стагодзьдзя прадстаўнік беларускай дынастыі Ягелонаў Уладзіслаў стаў каралём Чэхіі, а пазьней і Вэнгрыі. Яго зьмяніў сын Людовік. Тады Беларусь энергічна кантактавала і са Сьвяшчэннай Рымскай Імпэрыяй. У 1515 годзе падчас Вэнскага кангрэсу паміж каралём і Вялікім князем Жыгімонтам І (тым самым, які стала жыў у Вільні і гаварыў па-беларуску, бо па-польску ня ўмеў) і імпэратарам

Максымільянам Габсбургам было заключана пагадненьне аб адносінах паміж Габсбургамі (у Аўстрыі) і Ягелонамі (у Чэхіі ды Вэнграх), паводле якога бакі абменьваліся дынастычнымі шлюбамі: Людовік Ягелон меўся ажаніцца з унучкай імпэратара Марыяй, а ягоная сястра Ганна – выйсьці замуж за Фердынанда Габсбурга, унука Максымільяна, потым імпэратара Фердынанда I. Было дамоўлена, што калі адна з дынастыяў згасьне, то ейныя ўладаньні пяройдуць да другое. У 1526 годзе малады кароль Людовік II Ягелон загінуў у вайне з Турцыяй, не пасьпеўшы ажаніцца, і Вэнгрыя з Чэхамі сталіся ўладаньнем Габсбургаў ажно да 1918 году. Гэтыя некалькі прыкладаў добра паказваюць тагачасную інтэграванасьць Беларусі ў эўрапэйскі зьнешнепалітычны працэс.

Не было выключэньнем і жыцьцё царкоўнае. Акт фармальнага аб'яднаньня Усходняй і Заходняй цэркваў на Беларусі адбыўся ў 1596 годзе і вядомы ў гісторыі як Берасьцейская царкоўная вунія. Сялянства ў пытаньнях веры было досыць пасыўнае і пераважна ішло за шляхтай, сярэдняя і дробная частка якой у хуткім часе амаль цалкавіта сталася вуніяцкай. Сяляне (яны складалі тады звыш 90% насельнікаў краіны) амаль не заўважылі пераходу, бо абраднасьць засталася старая, адно з-пад юрысдыкцыі Канстанцінопаля перайшлі пад кіраўніцтва Рыму. А ў гарадох разгарнулася вострая літаратурная палеміка й рэлігійная барацьба – тыповая для сярэднявечнае Эўропы зьява.

Пра вуніяцкую царкву ў расейскай вялікадзяржаўнай гістарыяграфіі XIX стагодзьдзя, а пасьля і ў савецкай напісана безьліч хлусьні й аднабаковае паўпраўды. Прынята націскаць на гвалт з боку вуніятаў пры захопе цэркваў і цалкам замоўчваць адваротныя факты. А іх мноства. Прывяду некалькі і толькі адваротных, бо нашыя гісторыкі іх упартa ігнаруюць. Вось, скажам, гісторык, доктар навук В.Мялешка ў адным са сваіх дасьледаваньняў захапляецца тым, што пад час рабунку Магілёва рускімі войскамі ў 1633 годзе вуніяцкія манахі разам з парафіянамі па загадзе ігумена Гервазія Гасьцілоўскага хацелі зьняць і схаваць ад захопнікаў званы з царквы Сьв. Базыля, але праваслаўныя мяшчане перашкодзілі ім гэта зрабіць, моцна зьбілі манахаў і выгналі іх з уласнае царквы. Для В.Мялешкі пасобніцтва акупантам ёсьць патрыятызм. А на самай справе ці ня ёсьць тыя праваслаўныя рамесьнікі калябарантамі, што памагалі ворагу рабаваць уласную краіну ? Альбо вось у актах Віленскага магістрату за 1661 год (28 чэрвеня) чытаем скаргу манахаў Віленскага базыльянскага Сьвята-Троіцкага кляштара на манахаў праваслаўнага Сьвята-Духаўскага манастыра, якія ў часе той страшэннай вайны, што яшчэ называюць патопам (крывавым, бо загінула больш за палову беларусаў), мелі тайныя зносіны з "москвитиномъ" непрыяцелем, стала яму садзейнічалі, рабавалі цэрквы ды касьцёлы, каб пасьля нарабаванае перадаць Маскоўскаму войску; учынілі гвалтоўны налёт на Сьвята-Троіцкую царкву, укралі труны-саркафагі патрыярха Ігнація і мітрапаліта Вільяміна Руцкага, усе абразы, усе званы і нанесьлі шкоды кляштару на 100.000 коп. літоўскіх грошай. Няпраўда і тое, што, як цьвердзяць нашыя гісторыкі, праваслаўныя брацтвы ствараліся праваслаўнымі вернікамі дзеля барацьбы з Вуніяй. Іншая была ў іх мэта, і задоўга да Вуніі паўсталі тыя брацтвы як саслоўныя культурна-асьветныя арганізацыі мяшчанаў. У прывілеі Жыгімонта III ад 1589 году на стварэньне Віленскага Троіцкага брацтва чытаем сапраўдную прычыну – дзеля асьветы, дзеля стварэньня школы і вывучэньня ў ёй беларускай, грэцкай, лацінскай і польскай моваў. А пасьля 1596 году на Беларусі шырака паўсталі й вуніяцкія брацтвы з тымі ж мэтамі.

А ў Беларусі, тым часам, працягваўся ды ўзмацняўся працэс творчага аб'яднаньня заваёваў заходняга і ўсходняга мастацтва й культуры ўвогуле, да якога і спрычынілася нанаўстворaная царква (сама ў пэўнай меры вынік гэтага працэсу). Каб пераканацца ў гэтым, досыць узнавіць у памяці выгляд архітэктурных формаў Жыровіцкае ці Барунскае сьвятыняў, вуніяцкіх храмаў Вільні, Менску, Полацку, Гародні, Вольна, Беразьвечча ды інш.



*Царква Растеа Багародзіцы Гарадзенскага кляштару Базыльянаў. 1726 г. Вуніяцкае Барока. Архітэктар І.Фантана ііі.*

У 1720 годзе ў Замосьці адбыўся сабор вуніяцкае царквы, якая на той час моцна адчувала нутраную патрэбу ў самастойнай дагматыцы. На гэтым Саборы вуніяты прызналі дагмат пра сыходжаньне Сьвятога Духа і ад Бога-Сына, дагмат чыстца, пагадзіліся з непагрэшнасьцю Папаў, прызналі VIII Сусьветны Сабор, распаўсюдзілі на вуніяцкае духавенства пастанову Трыдэнцкага Сабору пра царкоўнае і хатняе аблачэньне сьвятароў (раса была замененая на сутану), абавязаліся ўвесьці сьвяты Цела Хрыстова і Ясафата Кунцэвіча, на той час кананізаванага, пакінулі за белым духавенствам права мець сямью і г.д. У 1724 годзе Папа Бенедыкт XIII зацьвердзіў пастановы Замойскага Сабору.



*Троіцкая царква ў Вольна. 1786 г. Вуніяцкае Барока.*



*Сьв.сьв. Базыль Вялікі, Рыгор Багаслоў, Ян Залатавуст. Абраз зь Берасьцейшчыны. 2 пал. XYiii ст.*

Абрад жа заставаўся ранейшым – усходнім (праваслаўным), за выключэньнем дробных зьменаў: забаранілі прычашчаць немаўлятаў, сталі ўзносіць імя Папы ў часе літургіі. Моваю Службы Божай засталася царкоўнаславянская, моваю казаньняў і кніжак для народу была беларуская. Што датычыць набліжэньня Вуніяцтва да Сусьветнае царквы, то гэты працэс ішоў толькі ў дагматыцы, а набажэнства і абраднасьць засталіся сваімі, праваслаўнымі. А гэта якраз тая сфэра хрысьціянскага культу, успадкаваная і найбольш захаваная Праваслаўнай царквой ад першых хрысьціянскіх сэктаў-абшчынаў, што некалі патаемна ў Рымскіх катакомбах прычашчаліся хлебам і віном; тая сфэра, у якую народ укладае свой талент, праз якую выяўляе свой сьветапогляд, датрымлівае традыцыі, захоўвае нацыянальную тоеснасьць ды індывідуальнасць – хоравая культура, царкоўная музыка, сакральнае выяўленчае мастацтва і архітэктура, абрадавасьць, – якраз гэтая сфэра засталася некранутай. І толькі зь бегам часу яна зазнала пэўныя зьмены, ды ня ў бок набліжэньня да Рыма-Каталіцтва, але на карысць умацаваньня савйго нацыянальнага характару і духу. Трэба таксама прызнаць, што працэс гэты быў супярэчлівы, меў арганічны характар і аж да сёньня яшчэ ня скончыўся. Што датычыць фактаў увядзеньня ў канцы XYiii стагодзьдзя і ў XIXм у вуніяцкіх храмах арганаў, скасаваньня іканастасаў, завядзеньня алтароў ды званочкаў, то яны былі вынікам дазволу на ўступленьне ў Базыльянскія манастыры каталікам лацінскага абраду. Гэта прывяло да пэўных супярэчнасьцяў паміж базыльянскімі манахамі і белым духавенствам, і ўжо ў XIX стагодзьдзі базыльяне выйшлі з-пад юрысдыкцыі вуніяцкае іерархіі і падпарадкоўваліся адно гэнэралам Ордэну. Але супярэчнасьці тыя ёсьць унутранымі супярэчнасьцямі вуніяцкае царквы, якія толькі адбівалі ейны рух, эвалюцыю, разьвіцьцё, і няма сумненьня, што каб не гвалтоўнае скасаваньне Вуніі ў 1839 годзе, яны былі б паступова вырашаныя. (Тым больш, што вядома і адваротнае – рух за захаваньне ўсходняга, праваслаўнага, абраду, супраць прыхільнікаў лацінізацыі вуніяцкае царквы ўзначальвалі найбольш сьведамыя і адукаваныя прадстаўнікі базыльянскага манаства). Падобную эвалюцыю зазналі ў свой час ледзь ня ўсе вуніяцкія цэрквы сьвету, і нідзе, апрача італьянскіх астравоў Калябрыя, Крыт ды Корсіка, дзе жывуць альбанцы-вуніяты, не прыжыліся тыя арганы. Базыльянскія кляштары, якіх у 20-я гг. XIX стагодзьдзя ў чатырох архіепархіях – Віленскай, Полацкай, Берасьцейскай і Луцкай – было 72, адыгралі выдатную ролю у асьвеце беларусаў, бо хай сабе і гаварылі манахі між сабою ў XIX стагодзьдзі ўжо па- польску, але ж кніжкі для народу выдавалі па-беларуску. Дый ніхто тыя кляштары і не лічыў польскімі: "велебное ее милости панны Катарины Сапежанки – подканцлеранки великого князства Литовского, аббатиссы Виленского и Минского монастырев **руских** в унии светой будучых, закону светого Базылего ..." чытаем у акце Віленскага земскага суда ад 15 кастрычніка 1633 году. Не лічылі іх польскімі і ў XYiii і ў XIX стагодзьдзях. У Рэчы Паспалітай яны заўсёды заставаліся "рускімі". Цьверджаньні прадстаўнікоў расейскае вялікадзяржаўнае гісторыяграфіі XIX ст. ды іхных сучачных спадкаемцаў, што Вуніяцтва несла паланізацыю, вядома ж, не адпавядае сараўднасьці. Гісторыя данесла да нас і дыскрымінацыйныя захады, выдаваныя ўладамі Рэчы Паспалітае ў дачыненьні да вуніятаў, і звычайны ўціск апошніх з боку палякаў-лацінікаў. Агульнавядома, што каталікі лацінскага абраду ставіліся да вуніятаў з пагардаю. Вось, скажам, вядомая скарга Віленскіх базыльянаў ад 27 чэрвеня 1765 году на Віленскіх езуітаў і дамініканаў за сталы ўціск і гвалт, за захоп іх земляў-маёнткаў Сьвіраны і Шанкаполы і г.д. Дык чаму ж тое дзеелася? І што гэта за паланізацыя з боку Вуніі, калі самі "паланізатары" церпяць гвалт ад палякаў? Адказ знойдзем у зьвестках беларускага этнографа І.У.Чаквіна, паводле якіх у XYi – XYiii стагодзьдзях Вуніяцтва ў Рэчы Паспалітай называлася "рускай", "грэчаскай" верай, а ў Маскоўскай дзяржаве – "беларускай верай". Ну а распаўсюджаны ў XYi – XYiii стст. тэрмін "праваслаўныя вуніяты" гаворыць сам за сябе.

XYIII стагодзьдзе – час росквіту сакральнага вуніяцкага мастацтва і архітэктуры. Нам у школах ды ўнівэрсытэтах доўга ўбівалі ў галаву, што XYiii стагодзьдзе было стагодзьдзем заняпаду беларускага мастацтва, пісьменства і культуры ўвогуле, а то і перапынкам у ейным разьвіцьці, на тэй падставе, што дужа мала засталося рухомых помнікаў. Але справа ў тым, што ў XYiii стагодзьдзі беларускія пісьменнасьць ды мастацтва ва ўмовах Контррэфармацыі, страціўшы пазыцыі ў сьвецкіх жанрах, насілі пераважна сакральны вуніяцкі характар, існавалі ў рэлігійных формах. З духовага каталіцкага (лацінскага) асяродзьдзя выходзіла польскамоўная літаратурная прадукцыя (было там, праўда, і троху беларускага – беларускія інтэрмэдыі лацінамоўных драматычных твораў), астраўкі Праваслаўя на Магілеўшчыне, Случчыне і Наваградчыне жывіліся царкоўнаславянскаю моваю, і адно кніжкі вуніятаў, што выдаваліся дзеля асьветы і царкоўнага навучаньня, былі беларускамоўныя: згадайма выданьні Жыровіцкага базыльянскага кляштару. Ды ўсе тыя беларускія вуніяцкія кніжкі па-дзікунску, па-герастратаўску зьнішчаныя ў 1839 і ў наступныя гады пад час скасаваньня Вуніі.

А справа ішла. Прадстаўнік беларускай каталіцкай арыстакратыі граф Іяахім Храптовіч пісаў сьвецкія вершы на чысьцюткай беларускай мове. І ваярскія песьні, пяяныя паўстанцамі Касьцюшкі ў часе баёў з Суворавым, таксама былі беларускамоўнымі. Беларуская пісьменнасьць жыла і магла, цераз літаратурную дзейнасць філярэтаў і філяматаў начале зь вялікім Адамам, узьняцца на належную вышыню, каб расейскі ўрад пасьля паўстаньня 1830 – 1831 гг. "раптам" не "зразумеў" што Беларусь – край "исконно русский и православный" і не распачаў сваю чорную работу па зьнішчэньні Беларусі з твару зямлі. І калі ўвесну 1839 году па загадзе рэнэгата вуніцкага біскупа Іосіфа Сямашкі па ўсёй Беларусі запалалі вогнішчы, то палівам для іх былі тысячы і тысячы беларускіх вуніяцкіх кніжак: рукапісаў і старадрукаў. Нечуваная трагэдыя спасьцігла тады наш народ! Але зьнішчальнікі падмуркаў нашае нацыянальнае сьвядомасьці, у сваёй дзікунскай рупнасьці разбурыўшыя ці перабудаваўшыя ў нашых гарадох усе вуніяцкія сьвятыні, не дагледзелі, што ў глухіх беларускіх вёсках засталіся драўляныя і мураваныя цэркаўкі, прыстасаваныя новымі гаспадарамі дзеля сваіх патрэбаў. А ў іх – старыя вуніяцкія абразы. І што яны, тыя абразы і цэркаўкі, застаннуцца сьведкамі нашае нацыянальнае індывідуальнасьці і адметнасьці, і што калі-небудзь знойдуцца людзі, якія адкрыюць напаўзьнішчанаму народу вочы на ягоны забыты скарб і дапамогуць яму ўспомніць сябе.

"Роля вуніі 1596 году ў фарміраваньні гісторыі беларускага мастацтва, сьветапогляду нашых продкаў, нацыянальнага характару і культурных традыцый яшчэ далека не вывучана і не ацэнена. У некаторым сэнсе Вунія – галоўны ўклад беларускага народу ў сусьветную культуру." "Сакральнае вуніяцкае мастацтва ў гэты час (канец ХУІІІ ст. - С.М.) даходзіць да канонатворчасьці. Які лепшы прыклад незалежнасьці і самабытнасьці гэтага мастацтва!" Пра вуніяцкую духовасьць: "талерантнасьць, павага да чужых поглядаў і меркаваньняў, памяркоўнасьць і спагадлівасьць. . . ухваленьне ведаў, розуму, настаўніцтва. . . любоў да Радзімы і яе культуры, да свабоды і чалавечай годнасьці. . ." Гэта – Ю.В.Хадыка, ня толькі фізык, але й выдатны мастацтвазнаўца, які 20 год вывучае вуніяцкія абразы. А, між іншым, беларускія праваслаўныя абразы ХУ-ХУІ стст. практычна нічым ня розьняцца ад вуніяцкіх ХУІІ-ХУІІІ стагодзьдзяў (толькі ў апошні пэрыяд існаваньня Вуніі вуніяцкае мастацтва дасягнула ступені выпрацоўкі ўласных канонаў і пачалі зьяўляцца абразы з узаемавыключнымі і для Праваслаўя і для Рыма-каталіцтва сюжэтамі). А ўсе іх аб'ядноўвае адметны тон, колер і надзвычайны **гуманізм** твараў. Апошняе падкрэсьліваю спэцыяльна, бо, згадзецеся, ёсьць розьніца паміж праваслаўна-маскоўскім "Господи . . . **раба** твоего" і беларуска-вуніяцкім "Госпадзе . . . **слугу** свайго". Усе яны, тыя абразы, проста беларускія: "вуніяцкія", "памежныя". Вуніяцкія – працяг праваслаўных. Скажу яшчэ, што славуты альбом "Жывапіс Беларусі ХІІ-ХУІІІ стагодзьдзяў" Н.Т.Высоцкай, які адкрыў эўрапэйскаму мастацтвазнаўству вочы на беларускае мастацтва, амаль цалкам складаецца з вуніяцкіх абразоў. . . Ці не зразумела адсюль, што вуніяцкі біскуп Сямашка – ініцыятар (у пэўнай ступені, вядома) скасаваньня Вуніі, вогнішчаў, у якіх палала нашая нацыянальная культура, чалавек, які падсек карэньні нашае нацыянальнае сьвядомасьці; ці не зразумела, што гэты чалавек заслугоўвае на нашую вечную памяць ? Цяжка адно зразумець, як выгадаваўся ён такім на Украіне, маючы бацьку й дзеда – вуніяцкіх сьвятароў-украінцаў, маці – дачку ўкраінскага вуніяцкага сьвятара, чатырох родных братоў – вуніяцкіх сьвятароў, дзьвюх цётак, сёстраў бацькі – жонак вуніяцкіх сьвятароў. Але што ж, кажуць, у сям'і. . . Памятайма і ведайма пра яго ! І ён, і тыя, у чыіх інтарэсах ён дзейнічаў, маюць недаравальны грэх перад Госпадам і кожнаму зь іх дасца па заслугах.

Такім чынам, Вуніяцтва ёсьць нацыянальная беларуская рэлігія, і ў васнове зьнішчэньня яе ў 1839 годзе палягалі зусім не тэалягічныя ці яшчэ якія ўяўныя прычыны: у васнове была палітыка – патрэбы расейскага імпэрыялізму, які прыкрываўся словамі пра выратаваньне беларусаў з-пад прыгнёту Польшчы ды лацінства. Можа хто ў Польшчы і ўскладаў надзеі на Вунію як на сродак паланізацыі беларусаў (а так яно, пэўна, і было, бо правячыя колы кожнае моцнае дзяржавы заўсёды прагнуя да чужых абшараў), ды зараз ведаем, што нічога з таго не атрымалася. Вунія спрычынілася да больш поўнага выяўленьня беларускага гэнія і дапамагла нам у цяжкую хвіліну пазьбегнуць дэна



*Сынковіцкая абарончая царква. ХУ – ХУІ стст. Праваслаўная Готыка. Падобны выгляд (фланкіроўка-вежамі) мелі й іншыя беларускія праваслаўныя цэрквы ХУ – пачатку ХУІ стст.: абарончыя цэрквы ХУІ ст. у Мураванцы й Супрасьлі, Полацкая Сафея. Відавочна зьнешняя розьніца паміж імі і праваслаўнымі храмамі Масковіі тае пары.*



*Спаса-Праабражэнская царква ў м. Смаляны Аршанскага р-ну. 2 пал. ХУІІІ ст. Народнае Барока.*

цыяналізацыі, не адмовіўся наш народ масава ад сваёй мовы на карысьць польскае, а вось пасьля гвалтоўнага скасаваньня Вуніі ў 1839 годзе дэнацыяналізацыя ў выглядзе русыфікацыі пайшла шпаркімі крокамі. Пальшчыліся найболей праз лацінскі абрад, хоць ведама , што большасьць дзеячоў беларускага руху ў XÌX ст. і напачатку XX належала да Рыма-Каталіцтва. Адказ на пытаньне, **каму** выгадна даводзіць адваротнае (што й робіцца ў нас яшчэ й зараз паўсюдна), знойдзем у дакладной запісцы маладога вуніяцкага прэлата Іосіфа Сямашкі, служачага Грэка-Каталіцкага Дэпартамэнту Рыма-Каталіцкае Калегіі ў Пецярбургу, пададзенай у Дэпартамэнт па замежных веравызнаньнях ў лістападзе 1827 году. (Нагадаю, што гэта 20-я гг. XÌX стагодзьдзя. Ужо філярэты і філяматы ў Вільні вывучаюць сваю даўніну, ужо зьбіраецца беларускі фальклёр, ужо Ян Чачот піша па-беларуску, ужо паўстае гэній Міцкевіча, які, пэўна ж, "грашыў" і беларускімі вершамі.) Дык вось, характарызуючы настроі беларускага вуніяцкага і каталіцкага "учащегося юношества", якія ён добра ведаў, бо сам нядаўна скончыў Галоўную сэмінарыю пры Віленскім унівэрсітэце, якая мела два адзьдзяленьні: рыма-каталіцкае й грэка-каталіцкае, Сямашка "міжволі" выдае нам сапраўдную прычыну ліквідацыі Вуніі. "Учащееся юношество отзывается о России с презрением; не зная русских, их обычаев, языка, оно считает их варварами и слово москаль служит обычным выражением презрения. . . Простой народ. . . ежечасно отзывается: не было этого за Польшей, не было этого за унией". А жахацца народу сапраўды было чаму: рэкруцкія наборы на 25 гадоў, утрая большыя ў параўнаньні з этнічнай Расеяй, падаткі й налогі і г.д. Падае Сямашка і сапраўдную прычыну й тэрміны паланізацыі беларусаў:

„Я уверен, что мало отыщется в римском обряде крестьян русского происхождения, которые бы не присоединились к оному уже во время российского управления, – может быть довольно одного благоприятного случая, и остальные 1,5 млн. русских по крови и языку своему (т. е. униаты) отчуждены будут навсегда от своих старших братьев". Чуеце, калі зьявіўся тэрмін „старший брат" і калі нас запісалі ў малодшыя браты, і, спадзяюся, разумееце, каму й зараз выгадна фальсыфікаваць гісторыю нашае нацыянальнае царквы. Той, хто мае вушы – пачуе, той, хто мае вочы – убачыць.

І вось адбыўся ракавы Полацкі Сабор 1839 году. Ад нас забралі нашую царкву. Сотні непакорлівых сьвятароў былі выгнаныя на ў Сібір, сотні, ратуючыся, мусілі разам з паствай перайсьці ў лацінскі абрад, сотні змусілі прыняць Праваслаўе. І паехалі на іх месца зь Вялікарасеі папы, манахі, багамазы, псаломшчыкі-рэгенты, несучы іншую, чужую Беларусі, традыцыю і зьнішчаючы рэшткі старое, айчыннае[XX]. Але дзіўная моц вуніяцкіх каранёў: па зьвестках П. Шэйна яшчэ праз 50–60 гадоў пасьля Полацкага Сабору народ паўсюдна пагардліва ставіўся да рускіх папоў і не хацеў маліцца па-новаму! (Шэйн жа, дарэчы, канстатаваў і падзеньне пад канец XÌX ст. маральнасьці ў народзе пасьля скасаваньня Вуніі.) Яна, тая чужая традыцыя, трывалая ў Беларусі і зараз, умацаваўшыся за 150 год.

Застаецца дадаць, што ідэя Вуніі ніколі не памірала ў нашым народзе, і сьвятарамі скасаваньне Вуніі ніколі не прызнавалася. У міжваенны пэрыяд у Заходняй Беларусі Вуніяцтва атрымала пэўнае разьвіццё. У 1934 годзе Папа Рымскі прызначыў выдатнага беларускага навукоўца і рэлігійнага дзеяча доктара Фабіяна Абрантовіча, які тады ўзначальваў Дом айцоў Марыянаў – беларускі каталіцкі кляштар, – Апостальскім Візытатарам для беларусаў. На пасадзе кіраўніка Друйскага Дома Марыянаў Ф. Абрантовіч, дарэчы, зьмяніў другога выдатнага чалавека, гэнерала Ордэну Марыянаў доктара Андрэя Цікоту. А. Цікота загінуў у савецкіх лягерох, а Ф. Абрантовіч быў расстраляны энкавэдзістамі ў 1939 годзе ў Львове. Пасьля вайны беларускае Вуніяцтва на захадзе таксама мела сваіх



*Срэбны напрастольны крыж. 1689 год. Эмаль.*

ахвярных працаўнікоў: Леў Гарошка, Язэп Гэрмановіч, уладыка Чэслаў Сіповіч ды інш. І нават цяпер, насупор заявам афіцыяных праваслаўных іерархаў Беларускага Экзархату, жыхары многіх вёсак у Заходняй Беларусі яшчэ памятаюць, што яны Грэка-Каталіцкага веравызнаньня. Дзеля прыкладу спашлюся на старажылаў вёсак Рубяжэвічы й Засульле Стаўпецкага і Дзяляцічы Навагрудзкага раёнаў Беларусі.

І, такім чынам , высновы нашае апалёгіі.

Беларусь была хрышчана ў X стагодзьзі ва ўсходні абрад тады яшчэ адзінае царквы. Падзел на Каталіцкую і Грэка-Кафаліцкую (Праваслаўную) цэрквы адбыўся ў палове XÌ стагодзьдзя і з гэтага пункту гледжаньня акт 1596 году стаўся толькі аднаўленьнем колішняга адзінства Хрысьціянскае царквы, а ўсходні абрад як быў, гэтак і заставаўся ўсходнім абрадам, зазнаўшы невялікія эвалюцыйныя зьмены ў ходзе гістарычнага разьвіцця. **Вуніяцтва – гэта лягічны вынік унутранае эвалюцыі ўсходняга абраду (Праваслаўя) на нашых землях.** Рашэньні Замосьцкага Сабору засьведчылі ўзьнікненьне ва Ўсходняй Эўропе самастойнае Хрысьціянскае канфэсіі ўсходняга абраду – у выніку гістарычнага разьвіцця Беларусі ды ейнае духовае культуры як часткі эўрапэйскае.

Вуніяцтва фактычна ёсць беларускім варыянтам колішняга ўсходняга абраду. Вунія – лягічны працяг беларускага Праваслаўя, якое зусім заканамэрна й гістарычна аб'ектыўна сталася Вуніяцтвам. Яно, у той жа час, ёсць і беларускае Каталіцтва.

Праваслаўе, якое мы маем на Беларусі сёньня, – чужое паводле абраду (сьпевы, літургія, аблачэньні сьвятароў). Яно ня ёсьць працягам беларускай праваслаўнай традыцыі і прыйшло да нас пасьля 1839 году. Бо, яшчэ раз сьцьвярджаю, беларускае Праваслаўе XYÌ стагодзьдзя арганічна й заканамэрна сталася ў XYÌI–XYÌII стст. Вуніяцтвам. Там, і толькі там рэлігійныя традыцыі беларусаў, якія стагодзьдзямі, з X па XÌX, выпрацоўваліся нашымі прадзедамі, і якія сёньня ахвярна падтрымлівае

Беларуская Грэка-Каталіцкая (Вуніяцкая) царква на Заходзе на чале зь вялікім падзьвіжнікам Апостальскім Візытатарам для беларусаў-каталікоў усходняга абраду а. Аляксандрам Надсонам. Той, хто бачыў Службу Божую ў храме на Кальварыйскіх могілках у Менску 11 сакавіка сёлета, якую правіў а. Аляксандр, напэўна, добра гэта зразумеў.

Існаваньне на Заходзе Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы таксама ня ёсьць аргумэнтам супраць нашых высноваў. Бо гэтая царква, адноўленая пасьля 20-х гадоў Магілеўскім архіепіскапам Філафеем Нарко і сьвядомымі беларускімі сьвятарамі Рускае Праваслаўнае царквы ў часе акупацыі Беларусі ў 1941–44 гг., паўстала з рускае праваслаўнае традыцыі і беларускай зьяўляецца толькі паводле мовы казаньняў.

І трэба кожнаму задумацца, чаму погляды на Вунію ў рускай вялікадзяржаўнай, гістарыяграфіі ды прапаганды і сучасных беларускіх адэптаў Праваслаўя супадаюць. Што за адзінадушша? Няўжо беларусам, хай сабе і праваслаўным, па аднэй дарозе з расейскімі шавіністамі, мінулымі й сучаснымі? З гэтага ж шэрагу й пытаньне, чаму зараз на Украіне ганяць Украінскую Аўтакефальную Грэка-Праваслаўную царкву? Вядома ж не таму, што яна праваслаўная, каталіцкая ці масульманская, а таму што **Украінская Аўтакефальная** (г. зн. незалежная).

Я не заклікаю беларусаў-праваслаўных і беларусаў-каталікоў лацінскага абраду як найхутчэй пераходзіць у Вуніяцтва – на Беларусі павінны суіснаваць усе гістарычныя хрысьціянскія канфэсіі. Проста трэба зразумець, шчыра, па-хрысьціянску: Вуніяцкая царква ёсьць актуальнасьцю для Беларусі.

І я зварачаюся да ўсіх сьведамых беларусаў, якія прагнуць адраджэньня Бацькаўшчыны і стаяць на праваслаўных альбо рыма-каталіцкіх пазыцыях. Няўжо вы не разумееце, якую ролю для нацыянальнага адраджэньня й кансалідацыі кожнага народу мае нацыянальная царква? Хіба прыклады суседзяў вам нічога ня сьведчаць? Польскі касьцёл у Польшчы і Руская Праваслаўная царква ў Расеі – іхная роля ў падтрымліваньні нацыяльнага духу хіба малая? Ці не зразумела й відавочна вам, што сыстэма найменш патрапіла зрусыфікаваць менавіта тыя народы, якія маюць моцныя нацыянальныя цэрквы: Каталіцкая царква ў Літве, Лютэранская ў Латвіі, Праваслаўная ў Грузыі, Вуніяцкая ў Арменіі і, урэшце, шматгадовае падпольнае Вуніяцтва на Заходняй Украіне? Хіба ня доказ гэта таго, што без нацыянальнае Вуніяцкае (Грэка-Каталіцкае) царквы не адбудзецца й нацыянальнага адраджэньня Беларусі?

Падумайма, суайчыньнікі !

Менск, 1990 г.

---

*х Кожны ваявода й баярын мелі адмысловыя брыгады дзеля росшуку й вывазу ў Масковію майстроў ды рамесьнікаў. З рыштункам, зь семьямі, з вучнямі, з сыраеінай ( ! ). Калі бралі, напрыклад, каваля, дык вывозілі й кузьню і ўсё жалеза з навакольля. Нават завесы зь дзьвераў зрывалі !*

*хх Адзін архімандрыт-вялікарос, атрымаўшы перавод з Жыровіцкае сьвятыні ў Архангельск, "прыхапіў" з сабою 20 тыс. тамоў з Жыровіцкае бібліятэкі – гэтак зьнікала тое, што патрапіла ацалець пасьля вогнішчаў.*

Працяг са стар. 15

# Жыцьцярыс сьвятое пакутніцы Уніі

толькі ўзмацнілі веру народа, згуртавалі народ вакол Грэка-Каталіцкай царквы. І таму, калі ў канцы 1989 году савецкія ўлады „падаравалі" украінскім уніятам права на існаваньне, гэтая царква мела ўсе ўнутраныя магчымасьці для аднаўленьня.

А ў нас, на Беларусі, Унія закрасуе толькі пры ўмове адраджэньня нашае нацыянальнае сьвядомасьці ды гістарычнае памяці. Дык дапамажы, Божа, нашаму адраджэньню, прыгарні да Сябе шматпакутны люд беларускі, умацуй веру нашую, зрабі нас вартымі сьвятой Уніі нашай! Няхай жа пачутай будзе разам з гэтаю малітваю і малітва Кастуся Каліноўскага, і малітвы беларускіх адраджэнцаў – ранейшых і цяперашніх, і малітва Казіміра Сваяка:

Прыйдзі, Хрысьце, нам веру дай –
Моц Божую:
Няхай пачуе родны край
Душу сваю.

Божа, бласлаўі Беларусь!

Менск, 1990.



## ДЗЕНЬ СЬВЯТОГА ІЯЗАФАТА • АДНАЎЛЕННЕ ТРАДЫЦЫІ



12 лістапада ўсёй Каталіцкай царквой адзначаецца дзень сьвятога пакутніка Іязафата Кунцэвіча, уніяцкага архібіскупа Полацкага, забітага ў 1623 годзе ў Вітабску. Іязафат – адзіны уніяцкі сьвяты, і ягоны дзень – найвялікшае сьвята беларускіх і ўкраінскіх каталікоў усходняга абраду.

Летась, 12 лістапада, у нядзелю, у Барунскім касьцёле адбылося ўрачыстае набажэнства ў гонар Іязафата. Адправіў службу ксёндз пробашч Ян Матусэвіч. Мовай імшы і казаньня была беларуская мова. Айцец Ян казаў аб жыцьцёвым подзьвігу сьвятога пакутніка за веру. У казаньні прагучалі такія жывыя і неабходныя нам, цяпераш-нім, словы з малітвы Іязафата: „Божа, дай еднасьць у сьвятым Доме Тваім!"

Айцец Ян падкрэсьліў невыпадковасьць і нават асаблівую значнасьць для Барунскага касьцёлу сьвята уніяцкага пакутніка: у Барунах даўней быў адзін з найбуйнейшых Базыльлянскіх цэнтраў на Беларусі. Ксёндз пробашч выказаў спадзяваньне, што мы прычакаем часу адраджэньня Уніяцтва на нашай зямлі. Цяпер у ксяндза Матусэвіча захоўваецца Рэліквія сьвятога Іязафата, перададзеная яму з тым, каб потым быць унесенай на вечнае захаваньне ў першы уніяцкі храм у Менску.

Айцец Ян прачытаў Малітву за Беларускі Народ, у якую ўключыў зварот да сьв. Іязафата як патрона Беларусі : „...а Ты, сьвятая Ефрасіньня Полацкая, і Ты, сьвяты Іязафат Кунцэвіч – патроны Беларусі – ды ўсе сьвятыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйцеся намі, каб мы сталі народам сьвятым, выконваючым Волю Божую і сваё пасланства..."

Гэтае сьвяткаваньне дню сьв. Іязафата – на якое, дарэчы, прыехала шмат народу са сталіцы, – праведзенае ў лацінскім абрадзе, стала, тым не меньш, першым сьвятам аднаўленьня ўніяцкай традыцыі на Беларусі.

## • ГОМЕЛЬСКІЯ УНІЯТЫ

Апошнім часам можна пачуць пра стварэньне уніяцкае грамады ў Гомлі. Рэдакцыя „Уніі" мела гутарку з ініцыятарамі і актыўнымі ўдзельнікамі гэтага руху. Вось што яны паведамілі.

2 лютага г.г. ужо сфармаваная уніяцкая суполка падала заяву на рэгістраваньне ў Гомельскі гарвыканкам. Пісьмовага адказу яны не атрымалі, але вусную адмову пачулі. Праўда, цяпер ёсьць надзея, што новаабраны гарсавет – значна больш дэмакратычны – дапаможа вырашыць справу рэгістраваньня ў бліжэйшы час.

Пасьля адмовы ў гарвыканкаме, сябры суполкі зьвярнуліся да Упаўнаважанага па справах рэлігіі пры Гомельскім аблвыканкаме. Той сказаў, што Унія – гэта не рэлігія, а палітыка, і таму ніякае Уніі на Гомельшчыне ня было і ня будзе.

А пакуль асноўная работа грамады – асьветніцкая. Кожную нядзелю ў памяшканьні „Талакі" айцец Пётра чытаў лекцыі па гісторыі Уніі. Былі лекцыі і ў школах – для настаўнікаў і старшакласьнікаў. Ёсьць намер стварыць у хуткім часе нядзельную школку для катэхізацыі дзяцей. Актыўна рыхтуецца царкоўны хор.

Уніяцкая грамада вырашыла аднавіць напаўразбураную Мікалаеўскую царкву (помнік архітэктуры ХУШ ст.), якая стаіць на ўскрайку гораду і выкарыстоўваецца альпіністамі дзеля трэніровак. У апошнія дні новы гарсавет прапанаваў, пакуль неафіцыйна, перадаць уніятам запушчаны храм у цэнтры гораду. Дарэчы, з трох храмаў, якія зараз дзейнічаюць у Гомлі, усе тры былі пабудаваны як уніяцкія.

Так ці інакш, пытаньне з царквою для грамады павінна быць вырашана. І ёсьць усе падставы спадзявацца, што гомельская грамада станецца першаю уніяцкаю суполкай на Беларусі. Памажы ім Бог.

## ЖЫВАЯ ПАМЯЦЬ ПРА УНІЮ

Прынята лічыць, што памяць пра Уніяцкую царкву не захавалася ў нашым народзе, што 150 гадоў панаваньня ў Беларусі Расейскае Праваслаўнае царквы канчаткова выкаранілі з народнае сьвядомасьці ўспаміны пра Унію. У лепшым выпадку сьцьвярджаюць, што ў асобных вёсках Заходняе Беларусі старыя людзі памятаюць пра спробы нацыянальна сьвядомых сьвятароў адрадзіць у 30-х гадох нашага стагодзьдзя беларускае Грэка-каталіцтва, а некаторыя з тых людзей нават кажуць, што яны ня „рускай" веры, а грэка-каталікі.

У сувязі з гэтым, чытачоў „Уніі" павінен зацікавіць наступны факт. У часе вандроўкі па Заходняй Беларусі мне давялося сустракацца і размаўляць у праваслаўнай вёсцы Кожава на Міршчыне (сучасны Карэліцкі раён) зь некалькімі бабулямі, якія, як аказалася, выдатна ведаюць, што некалі беларусы былі „уніяцкай" веры і зваліся „уніяты". На пытаньне, адкуль яны гэта ведаюць, тыя адказалі, што пра гэта ім расказвала яшчэ ў 20-х гадох нашага стагодзьдзя сялянка гэтае ж вёскі Зося Крапіўніцкая. Яна, па словах маіх інфарматараў, нарадзілася ў 80-я гады мінулага стагодзьдзя і зараз ужо, вядома, не жыве. Распавядалі тыя бабулі і пра няўдалыя спробы адрадзіць Грэка-каталіцтва ў іхняй мясцовасьці „пад канец Польшчы". Няўдалыя таму, што, па-першае, людзі досыць асьцярожна паставіліся да гэтае справы, а, па-другое, хутка надышоў верасень 1939 году, і новыя ўлады цэркв ы ў навакольлі наогул пазачынялі.

Як бачыце, перад намі ўнікальны факт, які сьведчыць пра трывалую гістарычную памяць беларусаў і пра вялікую значнасьць Уніяцкае царквы для народу, бо памяць пра яе перадаецца ад пакаленьня да пакаленьня праз цэлых 150 год.

За 3 кіламэтры на поўдзень ад Кожава знаходзяцца дзьве сумежныя вёскі – Вялікія і Малыя Жухавічы. Кожная зь іх мае драўляную праваслаўную царкву. Храм у Вялікіх Жухавічах будаваўся як уніяцкі: гэта царква Сьв. Пятра і Паўла, фундаваная Радзівіламі ў 1745 годзе. Цікава, што рыма-католікі Радзівілы фундавалі не лацінскі касьцёл, а храм грэка-візантыйскага абраду. А гэта ж палова ХУШ стагодзьдзя, ужо Унія існавала 150 год, і, здаецца, па меркаваньню афіцыйных гісторыкаў, ужо можна было пераходзіць да „акаталічваньня і паланізацыі", калі Унія была крокам да гэтага. Але ж не. Як высьветлілася пазьней, некаторыя старыя людзі і ў гэтых вёсках сёньня памятаюць пра „уніяцкую веру" сваіх продкаў.

І яшчэ цікавы штрых. Менавіта ў гэтай мясцовасьці, у вёсцы Трашчычы (3-4 км. на поўнач ад Кожава) нарадзіўся выдатны беларускі рэлігійны дзеяч, укладальнік уніяцкага малітаўніка „Божым шляхам" (Рым, 1946), айцец Леў Гарошка, які ў пасьляваенны пэрыяд ахвярна працаваў над адбудоваю Беларускае Грэка-Каталіцкае царквы на Захадзе, і ў значнай ступені дзякуючы намаганьням катарага, нашая Царква жыве і сёньня.

С.М.

## ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА НА УКРАІНЕ: ВЫХАД З ПАДПОЛЬЛЯ

Пасьля сьмерці мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага ўвосень 1944 году савецкае кіраўніцтва распачало падрыхтоўку ліквідацыі Грэка-Каталіцкае Царквы на Заходняй Украіне. Як носьбіт нацыянальнага духу, уніяцкая царква натхняла і асьвячала барацьбу ўкраінскага народу за незалежную дзяржаву, зьяўлялася асноўнаю перашкодай у справе дэнацыяналізацыі заходне-украінскага насельніцтва. Карыстаючыся тым, што практычна ўсе сьвятары ГКЦ падтрымлівалі ўзброеную барацьбу Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў (АУН) і Украінскай Паўстанцкай Арміі (УПА), НКУС пачаў павальныя арышты сьвятароў і адданых царкве міранаў.

У той жа час з падкупленых альбо напалоханых сьвятароў і вернікаў Міністэрствам Дзяржаўнай Бясьпекі фармавалася група Гаўрыіла Кастэльніка. Ён прапанаваў ужо правераны расейскім самаўладзьдзем у 1839 годзе варыянт ліквідацыі ГКЦ шляхам саборнага зьліцьця яе з Рускай Праваслаўнай царквой. На той час РПЦ, забыўшыся на рэпрэсіі і крыўды бальшавікоў, актыўна супрацоўнічала са Сталіным. Мэта была адна – адзіная і непадзельная Расейская імпэрыя (у дадзеным варыянце – СССР).

Правёўшы "чыстку" уніяцкага сьвятарства, пасьля якой да 80% сьвятароў апынулася ў ГУЛАГу, МДБ 8 – 10-га сакавіка 1946 году правяло ў Львове сьпектакль пад назвай "Сабор Грэка-Каталіцкае Царквы", на якім група Кастэльніка, прадстаўляючы фактычна самая сябе, падпісала ад імя ўсіх грэка-каталікоў акт аб зьліцьці з РПЦ. Апошняй была перададзена ўся маемасьць Уніяцкае царквы, частка архіваў і бібліятэкі мітрапалічай катэдры.

Пасьля "сабору" пачалося "далучэньне". Афіцэр МДБ выклікаў да сябе вернікаў і прапаноўваў выбар: альбо ў Праваслаўе, альбо ў ГУЛАГ. Такія падзеі выклікалі масавы ўход ва УПА і АУН, тысячы вернікаў, дагэтуль мірных аратаяў, пайшлі абараняць сваю веру ад зьнявагі ды гвалту. Галоўнаю ахвяраю гэтае барацьбы – прычым ахвярай бязьвіннай – сталі простыя праваслаўныя сьвятары, дасланыя з Расеі на "вольныя" прыходы. У 1948 годзе быў забіты галоўны здраднік Гаўрыіл Кастэльнік, але сілы былі відавочна няроўныя. Да 1950 - 1953 гадоў масавае ўзброенае змаганьне было пато- плена ў крыві.

Грэка-Каталіцкая царква засталася ў падпольлі. Там захавалася амаль некранутай структура царквы, са сьвятарамі, манахамі і нават навучальнымі ўстановамі. Царква жыла, але жыла па-за законам. Дзяржава ня толькі на працягу больш 40 гадоў не прызнавала уніятаў, ня толькі змагалася зь імі дзяржаўнымі мэтадамі, але яшчэ і прызвала на дапамогу РПЦ. Была прынятая нягласная пастанова: сьвятарамі на Заходнюю Украіну сынод прызначаў альбо расейцаў, альбо зрусыфікаваных усходніх украінцаў.

З пачаткам гарбачоўскае "адлігі" пачаліся і працэсы нацыянальнага адраджэньня на Украіне. Зь лягераў вярнуліся вядомыя прадстаўнікі нацыянальнага змаганьня: Чарнавол, Лук'яненка, Хмара, браты Горыні і інш. На хвалі нацыянальнага адраджэньня пачаўся рух за легалізацыю ГКЦ. Да лета 1989 году было сабрана 35 тысячаў подпісаў у падтрымку патрабаваньняў уніятаў. Подпісы былі перададзеныя ў Прэзыдыюм ВС СССР.

Але ўлады адмаўляліся ісьці на дыялог зь вернікамі. Таму ўвесну 1989 году пачаліся набажэнствы пад адкрытым небам ля ўваходаў у колішнія уніяцкія храмы. У адказ улады прыраўналі іх да недазволеных мітынгаў. Пад час Першага зьезду народных дэпутатаў СССР пачалася масавая галадоўка грэка-каталікоў у Маскве пад кіраўніцтвам Стэпана Хмары. Урад пайшоў на перамовы з ГКЦ, да якіх падключыліся ўпаўнаважаныя РПЦ, але цэркваў вернікам не перадавалі. На той час шматлікія прыходы РПЦ у заходне-украінскіх вёсках цалкам пераходзілі на Грэка-Каталіцкі абрад. Прычым праваслаўнымі, часцей за ўсё, заставаліся толькі сьвятар і царкоўны стараста.Усё гэта прымусіла пайсьці вернікаў ГКЦ на радыкальныя меры – захоп храмаў. Неабходна падкрэсьліць, што захопліваліся тыя храмы, якія да 1946 году належылі уніятам, а цяпер амаль цалкам страцілі праваслаўных прыхаджанаў.

Увосень 1989 году была створаная камісыя па вырашэньні спрэчных пытаньняў. У яе ўвайшлі прадстаўнікі ГКЦ, РПЦ і ўрадавых установаў. Але ўжо да сакавіка 1990 году стала зразумелым, што прадстаўнікі РПЦ не жадаюць вяртаць набытую пры дапамозе сталінскага МДБ маемасьць ГКЦ і што размова ідзе толькі аб прызнаньні Уніяцтва як веравызнаньня. Адчувалася, што пазыцыю РПЦ падтрымлівае кіраўніцтва СССР, і таму грэка-каталікі вымушаныя былі ў сакавіку пакінуць камісыю.

Выступаючы на перадвыбарчым мітынгу ў Львове, адзін з актывістаў Руху Расьціслаў Братунь, казаў: "Штучнае ўтрыманьне большасьці тутэйшых вернікаў ва ўлоньні РПЦ абвастрае і без таго напружанае становішча. А адначасова передача зачыненых храмаў, якія належылі раней грэка-каталікам, пад праваслаўныя цэрквы,– па сутнасьці, зьяўляецца крыніцай міжнацыянальнае розьні".

Такім чынам, праблема ГКЦ застаецца нявырашанай. На думку большасьці вернікаў, адзіным спосабам яе вырашэньня можа быць толькі поўнае прызнаньне незаконнасьці скасаваньня ГКЦ у 1946 годзе, а таксама поўнае вяртаньне маемасьці Уніяцкае царквы яе законнаму ўладальніку.

С.ГОРБІК

# САРДЭЧНА ВІНШУЕМ

СВАЇХ АДНАВЕРЦАЎ ЛАЦІНСКАГА АБРАДУ з аднаўленьнем на Беларусі пасьля 60 гадоў нябыту рымска-каталіцкай дыяцэзыі, з прызначэньнем на ейны архіпастырскі пасад Яго Эксцэленцыі біскупа Тадэвуша Кандрусэвіча і шчыра спадзяемся, што Касьцёл на Беларусі пачне нарэшце ператварацца ў Беларускі Касьцёл;

СВАЇХ ПРАВАСЛАЎНЫХ БРАТОЎ І СЯСЬЦЁР

з новаабраным Патрыярхам Маскоўскім і Усяе Русі Алексіем II і разам зь імі будзем горача маліць Усявышняга аб памыснай дзейнасьці Сьвяцейшага Першаіерарха Рускай Праваслаўнай Царквы;

з аднаўленьнем у нашым Краі праз доўгі нябыт епархій Магілёўскай і Мьсціслаўскай, Берасьцейскай і Кобрынскай, Полацкай і Віцебскай, Пінскай і Лунінецкай і сардэчна зычым плённай дзейнасьці іхным архіпастырам – праасьвяшчэнным архіепіскапу Максіму, епіскапу Канстанціну, епіскапу Дзьмітрыю, епіскапу Стафану;

з утварэньнем Беларускага Экзархату Рускай Праваслаўнай Царквы начале з Высокапраасьвяшчэнным Філарэтам, мітрапалітам Менскім і Гродзенскім, Патрыяршым Экзархам Усяе Беларусі і з наданьнем гэтаму Экзархату таксама і другой назвы – Беларуская Праваслаўная Царква, – назвы, якая абавязвае і стымулюе Яе ператварыцца ў сапраўды Беларускую Царкву;

з адраджэньнем Менскай Духоўнай Сэмінарыі ў Жыровічах і жаночага Спаса-Ефрасіньнеўскага манастыра ў Полацку і шчыра спадзяемся, што дух абедзьвюх былых уніяцкіх сьвятыняў дапаможа ім прынесьці найбольшую карысьць Беларусі і заклікаем усіх Чытачоў маліцца аб пакліканьні нашае моладзі да самаахвярнага служэньня Богу;

ПРАВАСЛАЎНЫХ ХРЫСЬЦІЯНАЎ БРАТНЯЕ УКРАІНЫ

з аднаўленьнем Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, якое было абвешчана ў чэрвені г.г. у Кіеве Ейным Арганізацыйным Саборам, і з выбраньнем галоўных Ейных іерархаў – Патрыярха Кіеўскага і Усяе Украіны Мсьціслава (мітрапаліта УАПЦ у ЗША) і Захавальніка Патрыяршага Пасаду, мітрапаліта Львоўскага і Галіцкага Іаана (пазбаўленага нядаўна перад гэтым сану епіскапа і манаха Рускай Праваслаўнай Царквы). Малітоўна зычым ім шматгадовага плённага служэньня Богу і Радзіме ды шчасьлівага пераадоленьня зьнешніх перашкодаў.

13 ліпня 1990 году ў Менску ўтварылася суполка "Унія". Суполка зарэгістравалася як калектыўная сябрына Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У далейшым часопіс "Унія" будзе выходзіць як выданьне суполкі.

А пакуль свае прапановы, заўвагі ды матэрыялы дасылайце на адрас: 220050, Менск-50, абанентная скрыня № 224.

„Унія". Выданьне беларускае уніяцкае моладзі. № 1, 1990 г. Нумар адрэдагавала на грамадзкіх пачатках Рэдакцыйная калегія.
Наклад 10000. Цана 1 рубель.

Друкарня „LIESMA„ ATBILDIGAIS PFR „ZEMELLATVIJAS„ BELETNA PIELIKUMU BALTKRIEVU VALODA M. BAGUSTOVS

з. 3751

## Сьвяты Яне

*– Сьвяты Яне, на Купальлю !*
*– Моцны Божа, няма часу !*
*– Сьвяты Яне, дзе дасюль быў ?*
*– Моцны Божа, ляды араў !*
*– Сьвяты Яне, нашто ляды ?*
*– Моцны Божа, ячмень сеяць !*
*– Сьвяты Яне, нашто ячмень ?*
*– Моцны Божа, солад расьціць !*
*– Сьвяты Яне, нашто солад ?*
*– Моцны Божа, піва варыць !*
*– Сьвяты Яне, нашто піва ?*
*– Моцны Божа, сына жаніць !.*
*– Сьвяты Яне, которага ?*
*– Моцны Божа, Іванічку !*
*– Сьвяты Яне, каго бярэць ?*
*– Моцны Божа, Марылечку !*

Прапаноўваем сьпяваць гэтую песьню на мэлёдыю песьні „У цёмным лесе гаманіла" /зборнік „Вянок беларускіх народных песень". - Мн., 1988, с. 64/. Першая палова кожнага радка сьпяваецца двойчы на пачатку і паўтараецца ў канцы радка.

## Дай, добры Божа

Тэкст: "Божым шляхам" - Лёндан 1967
Словы: а. Я. Гэрмановіча
Музыка апрац. Г. Піхура



*Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць,*
*Тваёю ласкай захавай ад грэху,*
*К Табе ўздыхае маё сэрца, плачыць –*
*Дай ў Тваёй сіле мне знайсьці пацеху !*

*Ты сьвет уладзіў на людзкую службу –*
*Такі карысны і такі прыгожы,*
*Каб мы, ўвайшоўшы з гэтым сьветам ў дружбу,*
*Цябе хвалілі, найлепшы наш Божа !*

*Табе малюся, Божа міласьцівы,*
*Дай мне убачыць сьвет твой найясьнейшы –*
*Цябе Самога і ўсе ў небе дзівы –*
*На векі вечны, Божа наймілейшы !*

*Тваёю моцай і я моцны стану –*
*Айца і Сына, і Духа Сьвятога –*
*Тройцу адзіну, калі ў неба гляну,*
*Хваліці буду Стварыцеля Бога.*

*Будзь слава Богу ў Тройцы ўсемагутнай -*
*І жыватворчай, вечнай назаўсёды,*
*І неразьдзельнай, і адзінасутнай,*
*У Божай моцы знак любові, згоды.*



